PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (2029) ГОД XL БЕЛАСТОК 2 КРАСАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Ганна Кандрацюк*

## Што новага ў Рыбалах?

Калі гэтае сяло наведаеце ў звычайны, будзённы дзень, тут — як усюды — бязлюднасць і шэрасць. Сёння на дадатак дажджлівае, халоднае надвор'е. Праспаць бы яго толькі! Спеў пеўняў напамінае пра гаспадароў, нечым занятых у сваіх хатах і панадворках. Сакавік не спрыяе сустрэчам пры плоце. Толькі па асфальтавай шашы ганяюцца шумлівыя машыны, цяжкія „ціры" і зрэдку чырвоныя трактары „Беларусь". Тыя апошнія найбольш зважаюць на ідучых тратуарам пешаходаў, каб не апырскаць іх граззю. Традыцыйна наведваю тут магазін, каб знюхаць вясковыя справы. Але найперш мой нос вылаўлівае пах вэнджанай рыбы. Не дзіва, у вёсцы многія посцяць. На прылаўку красуюцца тоўстыя макрэлі, салёныя селядцы, марожаная рыба.

— Што так у вас сёння ціха? — пытаюся самотнай прадаўшчыцы.

— А я ведаю? Трошку хіба прыціхлі, — сказала нeяк двухсэнсава мая субяседніца на прыгожым палескім дыялекце.

У час, калі мы задумоўваліся над цішынёю і поснымі таварамі, быццам па заказу з'явіліся чатыры кліенты.

— О! Сію дзевчыну я хіба знаю, — пачулася заўвага ў мой бок ад прыстойнага, крыху параненага на твары, кавалера.

І сапраўды. Не толькі мяне ведаюць, але, відаць, і ўспамінаюць. Справа ў тым, што ў час апошняга рэйду „Бацькаўшчына", які гасцяваў і ў Рыбалах, мне давялося папулярызаваць „Ніву" сярод студэнтаў. Калі асталося некалькі экземпляраў, я рашыла „ўцісну ць" іх кампаніі кавалераў, што стаялі ля магазіна і жлукцілі піва.

— Купіце „Ніву", а то насіць цяжка, — намаўляла я тых жа хлопцаў.

Аднак іх позіркі нават не накіраваліся ў бок пісанага слова. Прабуджанымі, павесялелымі вачыма сачылі ўсё за безупынным рухам студэнтак і ліцэістак, якія забягалі ў магазін.

— А колькі ж каштуе гэтая твая „Ніва"? — папытаўся, больш з абавязку, чым з цікаўнасці тады мой сённяшні „знаёмы".

— Чатыры, толькі чатыры тысячы, — змагалася я безнадзейна.

— Штыры, шчэ штыры і шчэ половіна і піво будэ, — аргументаваў мой субяседнік, а ўсе апошнія паківалі ў знак згоды галавой.

Здаецца, што і зараз нічога ў гэтай логіцы не змянілася. Аднак, вельмі прыемна сустрэць „старых" знаёмых і „паўспамінаць".

Не жарты, аднак, у вёсцы 34 старых кавалераў. Граніца паміж „старым" і проста „халасцяком" таксама рэзкая.

— Калі да 25-ці гадоў такі не ажэніцца, лічы прапаў ужо, — паяснялі вяскоўцы. Дакладней, абазначае гэта астацца не па сваёй віне старым кавалерам. Не дзіва тады, што

Працяг на стар. 3



Гэтыя кабеты з дзяцінства спяваюць у царкоўным хоры.



Ганулька і Міхась Мордані пасля школы гуляюць з коцікам.

## Агонія чыгуначных аб'ектаў

29 мая 1994 г. на чыгуначным пуці Белавежа—Бельск-Падляшскі перасталі курсіраваць цягнікі. Гэта скандальная падзея яшчэ сёння хвалюе насельніцтва навакольных мясцовасцей. Людзі проста не могуць зразумець і пагадзіцца з тым, што зараз абавязвае прынцып: экономіка важнейшая за чалавека. Бо і, сапраўды, такое штосьці толькі ворагу чалавецтва можа прыйсці ў галаву!

Аднойчы вырашыў я праверыць, што зараз дзеецца ў будынках на абодвух чыгуначных станцыях у Белавежы. Спярша адведаў я вакзал Белавежа-Палац. Пуста тут, аніводнага чалавека. Уваход у будынак, дзе змяшчаліся каса і пачакальня, ужо насцярожвае. У абодвух дзвярах выбіты амаль усе шыбы. У калідоры да касавай залы знішчаны гідрант на сцяне, няма ні шланга, ні ручкі, выбіта шыбка. Пасярэдзіне залы вялікая лужына. Смярдзіць, затым няцяжка дадумацца, што гэта не вада. Вітрынная шыба колішняга кіёска „Рух" лопнута, відаць, хтосьці чымсьці цяжкім кінуў у яе. На стол і рэшткі дыскатэкавай дэкарацы. У гэтым месцы трэба паясніць, што летась улетку сп. Мацеяўскі наняў гэты аб'ект дзеля наладжвання ў ім танцаў для моладзі. Хто б падумаў яшчэ пару гадоў назад, што менавіта ў дыскатэку заменіцца станцыя!

Па ступеньках уваходжу ў пачакальню для падарожнікаў. Тут другая смярдзючая лужына на падлозе. У выхадных (на перон) дзвярах няма ніводнай шыбы і забіты яны памаляванай на чорна фанерай.

Стоячы на пероне, думаю — ці спадзяваліся мясцовыя, ваяводскія і чыгуначныя ўлады, калі здавалі ў карыстанне гэты аб'ект дзевятнаццаць гадоў назад, што не міне нават чвэрць стагоддзя, як ён не будзе нікому прыгодны? А скольки ж было намаганняў, каб пабудову паспяхова давесці да канца!

Еду на станцыю Белавежа-Таварная. Будыніна тут яшчэ з канца XIX ст. Неяк трымаецца, хаця фарба на ёй страшэнна лушчыцца. Унутры пуста. Шыбы ў вокнах яшчэ захаваліся ўсе, але як доўга? Са сценаў у многіх месцах адпадае тынк. З падлогі хтосьці пачаў выдзіраць пліткі. Да печак таксама дабіраліся — на іх сляды ад разбівання. На выхадных дзвярах нейкія непрыстойныя надпісы. Пустэча і ў адміністрацыйна-гаспадарчай частцы станцыі. Толькі адны фіранкі асталіся ў пару вокнах.

Выходжу перад будынак і думаю — праўда гэта, што яшчэ нядаўна выдатны польскі кінарэжысёр Анджэй Вайда здымаў тут фільм паводле „Д'яблаў" Фёдара Дастаеўскага? А што цяпер дзеецца з аб'ектам! Горыч вокамгненна напльвае ў сэрца.

Я не ведаю, апякуецца яшчэ нехта абедзвюма станцыямі, ці ўжо не? Хадзіў я па іх і нікога не бачыў. Відаць, будынiны прызначаны на паступовае знішчэнне.

Вось табе і цэлая эканоміка Польскай дзяржаўнай чыгункі! А што людзям цяжка дабрацца на працу, ва ўстановы, да лекараў ці ў школы, хто б гэтым пераймаўся! Няхай пешшу ходзяць, гэтак як у даваенны перыяд. Чыгуначная вярхушка зараз ездзіць раскошнымі аўтамабілямі!

**Пётр Байко**

*Аляксандр Максімюк*

## У любую хвіліну

Беларускую мову ў Пачатковай школе ў Нарве вывучае дакладна адна шостая вучняў — 62 асобы з агульнага іх ліку 372. У гэтым агульным ліку вучняў нарваўскай школы адна трэцяя дзяцей з навакольных вёсак, рэшта — з самой Нарвы. На кожным узроўні навучання беларускай мовы (ад II да VIII класаў) створаны, з двух аддзелаў, адзін клас беларускай мовы. Найбольш „шматлюдныя" пачатковыя класы — II, III і IV — бо ў іх адпаведна 12, 13 і 14 асоб. У сёмым класе — адна асоба, якая арганізацыйна далучаецца да вучняў восьмых класаў.

Дырэктар школы Аліна Асташэўская, якая працуе там сем гадоў, лічыць, што дзеці маюць ідэальныя ўмовы для вывучэння беларускай мовы. Колькасць гадзін — тры ў тыдзень, паводле закона. Настаўнік — пасля беларускай філалогіі. Ну і найважнейшая справа — навучанне можна пачаць у любую хвіліну. Ніхто не стварае праблем.

У параўнанні з мінулым годам лік навучэнцаў беларускай мовы ў Нарве павысіўся (з 51 асобы да 62). Некаторы ўплыў на гэта, лічыць дырэктар, мае беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Ліцэй гэты пачынае пераважаць у папулярнасці, калі ідзе пра гайнаўскія школы. Дырэктару А. Асташэўскай вядомыя выпадкі, калі настаўнікі „польскага" ліцэя ў Гайнаўцы пасылаюць свае дзеці ў „беларускі".

**Ат, настаўнік беларускай мовы**

Настаўніцай беларускай мовы ў Нарве з'яўляецца Ніна Абрамюк, якая ў гэтай школе працуе чацвёрты год, а ўвогуле, як настаўніца — васемнаццаты. Раней вучыла яна ў школе ў Ласінцы. Акрамя беларускай філалогіі Н. Абрамюк закончыла яшчэ пачатковае навучанне. Жыве яна ў Нарве.

— *Якая сёння, па-вашаму, кандыцыя настаўніка беларускай мовы?*

**Ніна Абрамюк:** Калі ідзе пра настаўніка беларускай мовы — працаваць вельмі цяжка. Чаму? Раней мне давялося вучыць не толькі беларускай мове, але і іншых прадметаў. І вось з гэтымі іншымі прадметамі было лягчэй. Мела я розныя метадычна-навуковыя дапаможнікі, а калі ідзе пра беларускую мову — настаўнік прымушаны ўсё рабіць самастойна. Калі нават атрымліваю я што-небудзь з Беларусі — яно ўсё не надта дапасаванае да нашых рэаліяў. Трэба гэта мяняць. І яшчэ на сітуацыю настаўніка складаецца сам падыход вучняў да гэтага прадмета. Быў бы ён напэўна лепшым, калі б падыход бацькоў быў лепшы. Можа, аднак, у справе гэтай паправіцца з увагі на ўвядзенне прадметнага конкурсу па беларускай мове.

— *А як жа ставяцца гэтыя вучні да беларускай мовы, калі пачалі ўжо яе вывучаць?*

Працяг на стар. 3

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Andrzej Kozakiewicz z Kancelarii Prezydenta powiedział, że Lech Falandysz musiał odejść bo był mało skuteczny. „Ja jestem pułkownikiem, Wachowski — generałem, a Wałęsa — marszałkiem. Falandysz to sierżant, więc musiał słuchać naszych rozkazów — tłumaczył Kozakiewicz.*

*Wachowski jest twórcą dworskiego ceremoniału. Uzasadnia to godnością urzędu prezydenta. Prezydent nie będzie przecież mieszkać w małym Belwederze. Musi mieć ogromny pałac, straż, antyki i wiele innych atrybutów dworu. Wałęsa nie gustuje w takim ceremoniale, a jednak się nim obudowuje. Bo tak chce Wachowski. Przykład: robocze śniadanie z premierem. Msza. Specjalne przejście z kaplicy do sali na śniadanie. Służba rozstawia talerze i sztućce — rozmowa się nie klei. Wnoszą zupę mleczną. Wachowski i ks. Cybula opowiadają dowcipy. Służba kilkakrotnie zmienia nakrycia. Minęła godzina. Śniadanie zakończone. Premier wychodzi wściekły. Nic nie załatwił. Rzecznik prezydenta pisze komunikat dla prasy: „Rozmawiano o najważniejszych problemach kraju".*

*Wachowski jest bezwzględnie oddany. Daje się Wałęsie poniżać i wykorzystywać. Pozwala mu się zwymyślać. Żadna robota go nie poniża. Wykonuje dla Wałęsy wszystkie czynności garderobiano-kuchenne. Bez Wachowskiego Wałęsa byłby jak dziecko we mgle. Nie wiedziałby od czego zacząć dzień. Bo każdy jego dzień zaczyna się od Wachowskiego. Mietek opiekuje się rodziną Wałęsy. Załatwia mnóstwo prywatnych spraw. Przy Dance, żonie Wałęsy, nie można powiedzieć o Mietku złego słowa. Gdyby Wałęsa odsunął Wachowskiego, miałby w domu piekło. A tego się boi.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 58)*

* * *

*Dziś poczucie wspólnot w niektórych mniejszościach narodowych jest tak dalece osłabione, że nie mają one swojego przedstawiciela w Sejmie, mimo potencjalnych możliwości wyboru własnego kandydata. Dotyczy to zwłaszcza Białorusinów.*

*Jacek Kuroń jest zdania, że bez całkowitego zrozumienia mniejszości przez większość nie mają one żadnych szans przetrwania. Wszystko zależy od większości i to w każdym kraju, bo ona ustanawia prawa, wpływa swoim zachowaniem na hamowanie lub rozwijanie kultury mniejszości narodowych.*

*(Kurier Poranny, nr 57)*

Беларусы мелі і маюць жа сваіх паслоў у Сейме. А Сэрджыё і Влодэк то хто? А і большасць якая талерантная!

* * *

*Prezydent Aleksander Łukaszenko zapowiedział referendum w sprawie symboliki państwowej Białorusi i języka państwowego. Powitano to burzliwymi oklaskami. Zamiar jest następujący: wymienić Pogoń na sierp i młot, biało-czerwono-białą flagę na czerwono-zieloną dawnej BSRR; język rosyjski uznać za drugi język państwowy Białorusi — na równi z państwowym. Oficjalne uznanie dwujęzyczności oznaczałoby wyeliminowanie języka białoruskiego z życia publicznego.*

*(Polityka, nr 10)*

Лукашэнка ў такі спосаб бачыць рэфармаванне беларускай дзяржавы. Арыгінальны!

* * *

*Wiele jest prawdy, że „Bury" zabijał za prawosławie. Ale to była też polityka, świadomie chciał emigracji prawosławia. Stąd po wojnie AK było na tych terenach źle widziane,* — powiedzial katolik z Bielska Podlaskiego.

*(Kurier Poranny, nr 58)*

Можа ў канцы пра „Бурага" напішуць і ў польскай прэсе так, як ён на гэта заслужыў, называючы яго забойствы — забойствамі, замест „змагання за свабоду", а зверствы — зверствамі, замест сентыментальных дрындушкаў пра рыцара з Віленшчыны.

* * *

*W Polsce odsetek studentów należy do najniższych w Europie. Nie ma u nas mechanizmu wolnej konkurencji na rynku pracy intelektualnej. Dzięki mechanizmowi wolnej konkurencji w krajach demokratycznych płaca nauczyciela jest zwykle wyższa niż policjanta, a wynagrodzenie profesora uniwersytetu zbliża się do pensji ministra czy generała. Pod koniec 1994 roku miesięczna pensja ministra wynosiła 18 mln starych złotych, generała — 24 mln, profesora uniwersytetu — 7 mln, policjanta — 6 mln, nauczyciela — 3 mln, lekarza — 3 mln. Płace w Polsce są ustalane według uznania władzy, która przede wszystkim preferuje samą siebie. Zmusza to do zarobkowania w szarej strefie, bo tylko tam można uniknąć nadopiekuńczości państwa. Gastarbeiter zarabia więcej niż lekarz czy inżynier. Kult łopaty skutecznie zablokował rozwój szkolnictwa wyższego w Polsce — twierdzą eksperci. Amerykanin z wyższym wykształceniem do emerytury zarabia przeciętnie 3 mln dolarów, jeśli ukończył szkołę średnią — 2 mln. Gdy ma wykształcenie podstawowe może liczyć maksymalnie na 1,5 mln. W Polsce o wysokości płac najmniej decyduje wykształcenie.*

*(Wprost, nr 9)*

З адукаванымі людзьмі заўсёды былі клопаты. Навучы галоту пісаць і чытаць, а зараз пачне дамагацца ванны, тэлефона, аўтобусам захоча ездзіць, пра дэмакратыю дыскутаваць. Каму як не г.зв. інтэлігентам чорт у галаве мяшае? Га!

* * *

*Związek Zawodowy „Solidarność" otrzymał w zarządzanie budynek przy ul. Suraskiej 1. Z tego tytułu będzie otrzymywał 80 mln czystego zysku miesięcznie. Są to pieniądze, które nie trafią do kasy miasta Białegostoku.*

*(Kurier Poranny, nr 61)*

Авангард рабочага класа, нягледзячы, у якім будынку сядзеў і як называўся, заўсёды жыў на чыйсьці кошт.

* * *

*Zdaniem ZChN największe możliwości wychowania seksualnego tkwią w lekturze szkolnej. Na przykład w „Krzyżakach" Sienkiewicza pojawiają się wiadomości o przewadze pierwiastka duchowego w miłości Zbyszka do Danusi i fascynacji fizycznej Jagienką. Z „Chłopów" Reymonta uczniowie dowiadują się o Jagusi jako typie dziewczyny kierującej się impulsem seksualnym.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 61)*

Oj niegrzeczna ta Jagusia, niegrzeczna!

* * *

*Białystok jest najbardziej zaplutym i obsmarkanym miastem w Polsce. Wygląd niektórych klatek schodowych przyprawia o mdłości. Ludzie tu przyciskają nos palcem, a następnie dmuchają nosem, wydmuchując prosto na ziemię paskudztwa. Próżno w Białymstoku szukać toalety publicznej, a jeśli ją już znajdziesz, trudno tam wejść bez maski gazowej, gumofilców na nogach. A o mydle tutaj nikt nie słyszał.*

*(Gazeta Wspolczesna, nr 53)*

Ці гэты горад ёсць яшчэ ў Польшчы.

# З мінулага тыдня

**Першым афіцыйным кандыдатам на пост прэзідэнта РП стаў Адам Стшэмбаш** — I старшыня Вярхоўнага Суда, якога вылучыла Кансерватыўная кааліцыя. Лідэр гэтай партыі звярнуўся да правых груповак з заклікам падтрымаць гэту кандыдатуру.

**Кампраметацыяй** назваў шэф нямецкай партыі СПД незапрашэнне прэзідэнта Польшчы на берлінскія святкаванні заканчэння II сусветнай вайны. „Палякі заплацілі высокую цану крыві, змагаліся на баку саюзнікаў за вызваленне Нямеччыны і таму маюць яны гістарычнае, палітычнае і маральнае права на ўдзел свайго прэзідэнта ва ўрачыстасцях у Берліне" — сказаў ён.

**Суд у Тарнопалі** на Украіне прыгаварыў на восем гадоў турэмнага зняволення ўкраінскага міліцыянта Віталія С., які ў верасні мінулага года ў Пачаеве пабіў, а ў выніку прычыніўся да смерці Мікалая Шпаковіча з Белавежы. Два іншыя міліцыянты, якія мелі дачыненне да гэтага трагічнага здарэння і выступалі на працэсе як сведкі, прызналіся да клятвапарушэння і будуць суджаны ў асобным працэсе. Не ўдалося прыцягнуць да судовай адказнасці лекараў, якія дапусцілі да занядбанняў у лячэнні Мікалая Шпаковіча.

**Беласток** наведалі прадстаўнікі Польскага тэлебачання і Краёвай рады радыё і тэлебачання ў справе лакалізацыі будучага тэлецэнтра. Пасля ўступных агледзін шанс стаць сядзібай тэлецэнтра маюць будынкі па вул. Варшаўскай 1 і Цыялкоўскага 2/2.

Ад пачатку гэтага года ў **беластоцкім ЗАГСе** пабраліся шлюбам **230** пар. Рэкордным месяцам будзе аднак красавік, паколькі ў чарзе да шлюбу чакаюць 160 пар.

Пасля васьмігадовага перапынку ўзноўлена выдаванне „ **Беластоцкага нумізматыка"** — часопіса Беластоцкага аддзела Польскага нумізматычнага таварыства.

Праўдападобна ў ліпені або ў жніўні г.г. **у Беластоку** пачне працаваць першы бар суполкі **МакДоналд**. У перспектыве фірма намерваецца адкрыць у нашым горадзе чатыры сталовыя.

**Акруговае прадпрыемства мясной прамысловасці ў Беластоку** вінаватае сялянам з гміны Гродзіск каля 200 млн. старых злотых за пастаўленую імі жыўнасць. Сяляне патрабуюць неадкладнай выплаты належных ім грошай або накіруюць справу ў суд.

**Вучні Пачатковай школы ў Верабўях** Гарадоцкай гміны першы дзень вясны сустрэлі абрадам „тaплення Мажанны". У гэтым годзе куклу Мажанны падрыхтавалі вучні І-ІІІ класаў.

**Першы дзень вясны** кожны год выклікае хваляванні сярод настаўнікаў, паліцыянтаў, бацькоў і некаторых вучняў. Традыцыяй становяцца хуліганскія вылазкі вучняў сярэдніх школ. Сёлета таксама дайшло да сутычак п'яных вучняў з паліцыяй.

**Беластоцкая паліцыя** выявіла сапраўдны склад зброі. У моцна паднішчаным аўтамабілі „Жук" было знойдзена 90 газавых пісталетаў, у кватэры ўласніка машыны яшчэ 16, а ў ягоным кіёску на вул. Кавалерыйскай — 5,5 тысячы патронаў. Тры жыхары Беластока абвінавачваюцца ў кантрабандзе зброі ў Польшчу.

Пачалася **III Агульнаеўрапейская акцыя падліку буслоў**. На тэрыторыі Паўночнападляшскай нізіны (Беластоцкае і частка Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў) перапісную акцыю каардынуе Паўночнападляшскае таварыства аховы птушак у Беластоку.

**Паўночнападляшскае таварыства аховы птушак** — самая найстарэйшая арніталагічная арганізацыя ў Польшчы — адзначала сваё дзесяцігоддзе. З гэтага выпадку ў Белавежы адбыўся XI з'езд ПТАП з удзелам ста краёвых і замежных арнітолагаў.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- Гарадок жыве па-гарадскому.
- Адкрыты ліст Барыслава Рудкоўскага бурмістру Бельска-Падляшскага Андрэю Сцепанюку.
- Некалькі слоў пра Грамаду.
- Паленіка селяніна з прафесарам.


# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Наступ на свабоду слова

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які не раз ужо паказаў, што не любіць свабоднай прэсы, нядаўна вуснамі начальніка грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна звярнуў увагу на „неабходнасць пры падрыхтоўцы матэрыялу кіравацца заканадаўствам, захоўваць журналісцкую этыку, аб'ектыўна адлюстроўваацць працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве". А сваім указам ад 17 сакавіка г.г. прэзідэнт адхіліў ад пасады галоўнага рэдактара „Народнай газеты" Іосіфа Сярэдзіча за апублікаванне 10 сакавіка пісьма чытача з Гродзенскай вобласці да прэзідэнта, у якім крытыкаваўся намер аб'яднаць Беларусь з Расеяй. Выканаўчы камітэт Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі ахарактарызаваў дзеянні кіраўніка дзяржавы як чарговы наступ на дэмакратыю і свабоду прэсы. Гэты крок — грубейшае парушэнне закону. Паколькі заснавальнікам „НГ" з'яўляецца Вярхоўны Савет, пытанне аб адхіленні ад пасады рэдактара не ўваходзіць у кампетэнцыю прэзідэнта. Акрамя таго Іосіфа Сярэдзіча як дэпутата ВС нельга здымаць з работы. АДПБ з трывогай адзначае, што следам за гэтым крокам прэзідэнта можна чакаць іншых неправавых дзеянняў, якія „могуць прывесці да ліквідацыі зачаткаў дэмакратыі і ўстанаўлення аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі".

## Мітрапаліту Філарэту — 60!

Мітрапаліту Менскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі споўнілася 60 гадоў. Юбіляра шчыра павіншавалі не толькі вернікі, але і прадстаўнікі розных царкоўных канфесій і палітычных партый. Указам прэзідэнта Юбіляр узнагароджаны Медалём Францыска Скарыны.

## Міністр абвяргае

Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько абвергнуў чуткі аб тым, што рэспубліка мае намер выйсці з дагавору аб звычайных узброеных сілах у Еўропе. „Мы толькі прыпыняем знішчэнне звычайных узбраенняў", — сказаў ён і растлумачыў прычыны гэтага рашэння. У рэспубліцы зараз няма неабходных сродкаў для фінансавання заводаў занятых ліквідацыяй ваеннай тэхнікі.

## Штучны дэфіцыт

„У Беларусі няма і не можа быць дэфіцыту малочнай прадукцыі, у тым ліку масла і сыру, — заявіў дырэктар Горацкага маслазавода Пётр Кавалёў. — Наадварот, мы пакутуем ад перавытворчасці. Харчовыя склады нярэдка бываюць поўнасцю забітыя. Па-гаспадарску распарадзіцца выробленым перашкаджаюць вышэйшыя інстанцыі. Тое, што насельніцтва вымушана прабівацца сваімі 200 грамамі масла на душу ў месяц, тлумачыцца не столькі дарагоўляй, колькі штучным дэфіцытам прадукцыі".

## Дэманстрацыя пасажыраў

У Магілёве пасажыры аднаго з гарадскіх маршрутаў, якія не дачакаліся за тры гадзіны ніводнага аўтобуса, выйшлі на дарогу і перакрылі рух транспарту. На месца інцыдэнту прыбыў прадстаўнік аўтапарка, але страсці ўлегліся толькі пасля падачы некалькіх аўтобусаў. Гэта не першы выпадак, калі магіляўчане пратэстуюць супраць дрэннай работы гарадскога транспарту.

## Новыя інвестыцыі

Міністэрства гандлю накіравала хадайніцтва Міністэрству фінансаў аб адкрыцці бюджэтнага фінансавання на 1 млрд. 300 млн. рублёў на будаўніцтва аб'ектаў гандлю, якія будуць узведзены сёлета: універмага ў Барысаве і размеркавальніка-халадзільніка ў Менску.

## „Хворы" долар

Здаецца, курс долара ЗША захварэў на слупняк. Ён даўно захоўвае пастаянства на біржавым рынку рэспублікі і ў палове сакавіка каштаваў 11 670 „зайчыкаў". Нямецкая марка падаражэла на 200 пунктаў і дасягнула 8400 рублёў. Паніжаецца толькі курс суседніх „мяккіх" валют.

## Чыгуначнікі-кантрабандысты

Работнікаў чыгункі штораз больш прыцягвае цыгарэтны бізнес, які ўсё больш становіцца прывабным. Зараз праваднікі за добрую плату згаджаюцца перавозіць цыгарэты не толькі ў службовым купэ, але гатовы размясціць гэты груз і ў іншых памяшканнях вагона. У цягніку Гомель — Масква кантралёры выявілі ў тамбуры 200 кг цыгарэтаў, а знаходлівая чыгуначніца са Жлобіна адразу ж прапанавала заплаціць ім за левы багаж, толькі б тыя не шумелі.

## Вясна спрыяе „матылькам"

З надыходам вясны на пагранічным аўтапераходзе Бераставіца — Баброўнікі, які прызначаны для грузавога аўтатранспарту, прыбавілася колькасць дзяўчат лёгкіх паводзін. Мэты яны не хаваюць, хаця аддаюць перавагу кліентам з-за кардону. Грошы за інтымныя паслугі бяруць самыя розныя, не адмаўляючыся нават ад зайчыкаў. Нядаўна супрацоўнікі міліцыі адлавілі тут сапраўдны дэсант „матылькоў" са Слоніма. Самай малодшай з іх было 14 гадоў. У якасці пасведчання паказала яна ваенны білет сваёй маці. На пытанне, як яна трапіла на аўтапераход, дзяўчына адказала, што накіравала яе сюды маці на заробкі.



 

# Што новага ў Рыбалах?

*Працяг са стар. 1*

сустрэчы ў магазіне (а летам за магазінам) — адзіная нагода пажаліцца аднадумцам пра свае складаныя праблемы. Сам народ жа стагоддзямі паўтарае, што складанасці **немагчыма вырашыць без гарэлкі**.

Але не ўсе, зразумела, бачаць выхад у такіх прымагазінных сходах.

У Рыбалах непаўторны мужчынскі вакальны гурт. „Хлопцы-рыбалоўцы" спяваюць зноў поўным голасам. Колькі ў гэтым любові да роднай мовы і традыцыі! Колькі ж змагання і надзеі! Быў час, што спевакі прыціхлі. Безупынныя клопаты з інструктарамі моцна аслабілі дзейнасць групы. Аднак і тут знайшоўся надзейны выхад.

Дзякуючы нястомным стараням айца Рыгора Сасны, знайшоўся свой інструктар. Стаў ім новы псаломшчык, Янка Буранос. Дайшлі маладыя хлопцы. Праўда, былі складанасці, бо некаторых трэба было намаўляць, пераконваць.

— Проста, з вясковага сходу я ўзяў трох хлапчукоў і вырашыў завесці іх да інструктара. То адзін, ведаеце, уцёк па дарозе, а двух апошніх прывёў, — успамінаў бацюшка.

Усе „Хлопцы-рыбалоўцы" паабяцаліся спяваць у царкоўным хоры. Такім чынам у Рыбалах, як і ў многіх цывілізаваных краінах, людзі праводзяць вольны час спяваючы любыя сэрцу песні.

У вёсцы паўстаў таксама дзіцячы хор. Група з трыццаці дзетак праводзіць рэпетыцыі ў мясцовым клубе. Іх інструктарам з'яўляецца таксама Янка Буранос.

—Людзі павесялелі на душы, калі дзіцячы хор заспяваў у час парафіяльнага свята „Святы Божа", — заўважыў айцец Рыгор.

Таксама хлапчукі з Пачатковай школы прыслужваюць у царкве. Некаторыя нават навучыліся чытаць на старажытнацаркоўнаславянскай мове.

— Сам цешуся, што людзі тут такія ахвярныя, — расказваў бацюшка. — Нядаўна арганізавалі мы ўступныя працы пры рамонце царквы. Усе цэрквы, якія знаходзяцца на тэрыторыі парафіі, ужо даведзены да парадку. У самых Рыбалах рамонт таксама неабходны. Усё ж залежыць ён ад фінансавай дапамогі Міністэрства культуры і мастацтва. Але і мы робім што можам. І вось у апошнюю суботу прыйшло дванаццаць мужчын з чатырма фурманкамі і чатырма трактарамі, каб сосны для рыштаванняў звозіць. Навязлі іх больш як сотню. Таксама каляднікі заўсёды пакідаюць па сабе шчодры ўспамін. У гэтым годзе закалядаваныя звыш 10 мільёнаў злотых ахвяравалі на званы. І трэба дадаць, што гэта слаўная традыцыя рыбалаўскіх вернікаў.

Апрача гэтага ў сяле шмат навін. Нядаўна памянялі солтыса. Новым галавой вёскі стаў Мікола Стэпанюк. Стары солтыс, Іван Даніловіч, пасля 20-гадовай, нялёгкай працы, адышоў на заслужаны адпачынак.



*Айцец Рыгор Сасна з унучкай Ганулькай.*

Змены адбыліся і на іншых кіраўнічых пастах. Адклікалі з пасады начальніка пошты. У Рыбалах шмат робіцца ў кірунку адновы і сучаснасці. Многія маюць свае тэлефоны. У трох толькі вёсках — Рыбалах, Паўлах і Рэпніках — з'явіліся аж 82 новыя нумары. Зараз і іншыя набралі ахвоты. У самых толькі Войшках аж 25 гаспадароў дало заяўкі на тэлефон. Людзі спяшаюцца пакарыстацца вялікай льготай — тры гады будуць маглі карыстацца бясплатным абанементам. Неўзабаве пачнецца каналізацыя вёскі. Ёсць надзея на ўдачу, бо за справамі рыбалаўцаў сочыць свой радны, намеснік бурмістра горада Заблудава Міраслаў Максімюк.

Ёсць таксама свае клопаты і праблемы. Кожны, хто меў нагоду ехаць па трасе Беласток — Бельск, напэўна заўважыў немалы фрагмент спаленага лесу непадалёк Рыбалаў. Хвайнік загарэўся ў час мінулагодняй, летняй спякоты.

— 17 гектараў абпаленага лесу не можа так стаяць. Усялякія чарвякі там толькі множацца. Трэба за гэта ўзяцца, высечы мёртвыя дрэвы, навесці парадак, урэшце пасадзіць маладняк, — клапацяцца ў Рыбалах.

Усё ж агульны культурны і гаспадарчы прэстыж Рыбалаў заражае энтузіязмам усе навакольныя вёскі. Нядаўна ў Паўлах падумалі арганізаваць спявачую групу. Відаць, пазайздросцілі шалёнай папулярнасці спевакам з Рыбалаў. У гэтым пераканаліся ўсе ўдзельнікі „Фестывалю беларускай песні'95", бо „Хлопцаў-рыбалоўцаў" публіка выклікала некалькі разоў на сцэну.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



## Як чытаюць у Гарадку

Гмінная бібліятэка ў Гарадку мае 19,5 тыс. кніжак і звыш тысячы чытачоў. Апрача згаданай бібліятэкі ў Гарадоцкай гміне дзейнічаюць два бібліятэчныя пункты — у Вейках і ў Залуках.

У мінулым годзе Гарадоцкая бібліятэка купіла 1200 новых кніжак за звыш 51 мільён старых злотаў (у 1993 годзе — за 40 мільёнаў).

У бібліятэцы ў Гарадку ёсць кніжкі на беларускай і рускай мовах. Іх, аднак, вельмі мала — усяго 253, што складае 1,3% усяго кнізазбору. Сярод беларускіх кніжак перш за ўсё творы Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. Ёсць таксама некаторыя зборнікі вершаў нашых „белавежцаў".

У мінулым годзе чытачы маглі карыстацца ў чытальні 28 газетамі. У бібліятэку выпісалі таксама „Ніву", паколькі змяшчала яна „Панараму Гарадоцкай гміны" (трынаццаць частак, штотыдня).

Вялікім зацікаўленнем чытачоў цешыліся новазакупленыя энцыклапедычныя хронікі (чалавецтва, тэхнікі), тамы гісторыі літаратуры (м. інш. англійскай і польскай), слоўнікі (эканамічныя і фінансавыя, экалагічныя, музычныя, астранамічныя, батанічныя, філасафічныя). Многа цікавых кніжак трапіла ў дзіцячае аддзяленне. Сярод іх — найбольш папулярна-навуковых, слоўнікавага ды энцыклапедычнага характару, гістарычных.

Зараз гарадоцкія бібліятэкаршы намераны камплектаваць выданні, звязаныя з гісторыяй і культурай Беласточчыны, а перш-наперш пра мінулае Гарадка ды Гарадоцкай гміны.

У Гарадку найбольш чытаюць, між іншым, Зінаіда Мелец, Анна Казёл, Нэля Мацарская і Павел Базылюк (сярод дарослых) ды Агнешка Савіцкая, Бася Вайцяхоўская і Марта Грыка (сярод моладзі), а таксама Анэта Казлоўская, Агнешка Ругень і Яцэк Заблоцкі (сярод дзяцей).

**Янка Целушэцкі**

# У любую хвіліну

*Працяг са стар. 1*

**Н. Абрамюк:** У малодшых класах гэта ўсё добра выглядае. Гэта цудоўныя дзеткі, яны стараюцца, як могуць. Няма ніякіх цяжкасцей. У старэйшых класах некаторыя ставяць пытанне: *а можа гэта непатрэбнае, а навошта?* Проста, яны задумоўваюцца. У пачатковых класах гэта не існуе. Але, што важнае я бачу. Калі бацькі, дзеці якіх вучацца беларускай мове, таксама цікавяцца беларускімі справамі, то ёсць і вынікі. Дзеткі і больш старанна рыхтуюцца да ўрокаў, і моцна гэта перажываюць, і ацэнкі для іх вельмі важныя. Я бачу гэта, хаця б, на прыкладзе дзяцей нашай дырэктар — яны ўсе вучацца беларускай мове і моцна да яе прыкладаюцца. На жаль, не ўсе дзеці маіх сяброў вывучаюць беларускую мову. Некаторыя задумоўваліся: *варта, ці няварта* і так пытанне гэтае пакінулі нявырашанае. Скажу, што дзяўчаты больш горнуцца да гэтага прадмета, чым хлопцы. Вышэй пятага класа ёсць толькі адзін хлопец, які вучыцца беларускай мове. У гэтым годзе закончыць сваю адукацыю, бо ён у восьмым класе. У ніжэйшых класах крышку больш хлопцаў пачало вывучаць беларускую мову. Гэта мяне вельмі цешыць.

*—Ці карыстаецеся матэрыяламі з Беларусі і як палагоджваеце іхнюю недапасаванасць да нашых рэалій?*

**Н. Абрамюк:** Я карыстаюся імі. Ёсць усякія метадычныя дапаможнікі, напрыклад „Роднае слова" ці іншыя, якія прывозіць мне сяброўка з Гродна (яна ў нас настаўніца англійскай мовы). Калі пачаць з другога класа, вельмі важныя прописы, бо там вучні знаёмяцца з літарамі, вучацца пісаць. Калі адзін або два прописы на клас, усё трэба рабіць на дошцы. Як мне вядома, на польскай мове вучні маюць гэтыя сшыткі, нават па два і тры. Сёмы і восьмы клас маюць свае падручнікі, бракуе для трэцяга і чацвёртага. Я карыстаюся падручнікамі, якія бяру з іншых школ — дапамагаюць мне Чыжы. Матэрыялы з Беларусі я чытаю і стараюся пераносіць неяк у нашыя ўмовы.

*— Выходзіць, што настаўнік беларускай мовы больш часу прысвячае на падрыхтоўку да ўрока?*

**Н. Абрамюк:** У метадычных дапаможніках ёсць нават цэлыя ўрокі, а вось для беларускай мовы такога няма. Проста, няма. У методыка па беларускай мове шмат працы і ў настаўніка таксама. Настаўнік хоча, каб былі нейкія вынікі, каб навучыць. Зацікавіць — гэта адна справа, але навучыць — цалкам іншая. Той, хто не вучыць гэтага прадмета, можа і не зразумее аб чым я гавару. Ускладняе яшчэ і той факт, што ў нас вучні даходзяць яшчэ ў трэцім-чацвёртым класе. Што з гэтага атрымліваецца? Выходзіць, што ўрокі гэтыя фактычна спалучаныя. Калі вучань дойдзе ў чацвёртым ці трэцім класе, дык пачынае з літар. І зноў цяжкасць. Здаецца, чаму ж ён раней не прыйшоў! Ну, але мы яго не адсылаем, а працуем з ім.

*— Вяртаюся да галоўнага пытання пра сітуацыю настаўніка беларускай мовы. Ці праца гэтая дае вам прафесійнае задавальненне? А можа больш ахвотна змянілі б беларускую мову на матэматыку?*

**Н. Абрамюк:** У ролі настаўніка, то я адчуваю сябе вельмі добра. Я з дзіцячых гадоў марыла, каб ім стаць. Цяпер я вельмі цешуся, хаця вядома, што цяжка працаваць. Ці можна было б памяняць прадмет? Я ведаю, хіба можна было б. Можа тады лягчэй бы стала працаваць. Але найлепш было б спалучыць: часткова навучаць беларускай мове, а часткова іншаму прадмету. Каб зусім адкінуцца ад беларускай мовы, то не. Я яе люблю. Іншы прадмет быў бы выгодны з увагі на прэстыжнасць, бо грамадская ўспрымальнасць настаўніка беларускай мовы такая, што *ат, настаўнік беларускай мовы*. Дарэчы, пытанне пра ўспрымальнасць настаўніка беларускай мовы цікавей было б паставіць вучням, бацькам, ці іншым настаўнікам.

*— Дзякую за размову, а пытанне такое калі-небудзь, пэўна, пастаўлю.*

**Аляксандр Максімюк**

<u>Прыродазнаўчая цікавінка</u>

## БЕЛАВЕЖСКІЯ МЯККАЦЕЛКІ

Мяккацелкі — гэтак называецца сямейства насякомых атрада жукоў, якое ахоплівае 6000 відаў. З іх 100 жыве ў сярэдняй Еўропе. У апошні час даследаванні над гэтымі насякомымі ў Белавежскай пушчы правёў Антоні Куська з Кафедры біялагічных навук Акадэміі фізкультурнага выхавання ў Катавіцах. Вучоны даказаў, што тут выступае 41 від мяккацелак, значыць аж палова усіх дагэтуль выяўленых у Польшчы. Адзін від, знойдзены ў пушчы, дагэтуль нідзе больш у нашай дзяржаве не назіраўся, хаця потым даследчык злавіў некалькі наступных яго экземпляраў на берагу Нідскага возера.

Чым не багата Белавежская пушча!

**П. Байко**

*Даўно ўжо мінуў час, калі беларускі актыў Беласточчыны разам з польскімі таварышамі адзначаў важныя гадавіны з гісторыі „рэвалюцыйнага руху", прыпамінаў памяць яго апосталаў. Таварышы сталі „дэмакратамі" і „хрысціянамі" і не выпадае ім займацца няслушнымі ідэямі, памылковымі дактрынамі ці цяпер адкінутымі новай „вядучай сілай" героямі. Іншым маёрам і камендантам ставіцца цяпер помнікі, арганізуюцца вечарыны, урачыстыя пасяджэнні і мітынгі, прысвечаныя іх памяці. Пішацца таксама новая гісторыя. Тыя самыя людзі раптам зусім інакш пабачылі мінулае. Тое, што было чорнае паводле іх глыбокага пераканання, сёння з'яўляецца белым, а белае — чорным. Раней пра камунізм пісалі як пра збаўленне для свету, цяпер як пра найгоршае злачынства.*

*Варта аднак глянуць на тую эпоху больш рацыянальна, бо ўсе падзеі маюць свае прычыны і паслядоўнасці. Нават не ўсведамляем сабе як доўга будзем яшчэ — ці гэтага хочам ці не хочам — думаць катэгорыямі мінулай эпохі. Бо ўсе мы ў ёй нарадзіліся і выхаваліся, а іншага ладу амаль не ведаем.*

*Яўген Мірановіч*

# К П З Б

Калі сапраўды ўзнікла Камуністычная партыя Заходняй Беларусі — дакладна не ведаем. II З'езд Камуністычнай партыі Польшчы ў кастрычніку 1923 г. прыняў пастанову, што ўсе новыя групоўкі на тэрыторыі Віленскага, Палескага, Навагрудскага і Беластоцкага ваяводстваў павінны яднацца ў рамках аўтанамічнай КПЗБ. „Nazwa „Białoruś Zachodnia, — піша Аляксандра Бергман, — pojawiła się z racji dominującej nad innymi kwestii białoruskiej na tym terenie" (*Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, Warszawa 1984, s. 10). Партыя перш за ўсё мела тэрытарыяльны характар. Усе камуністы — палякі, яўрэі ці іншыя нацыянальнасці, якія жылі на гэтай тэрыторыі — былі яе членамі. У некаторых гарадах Заходняй Беларусі, дзе ў большасці насельніцтва было яўрэйскай і польскай нацыянальнасці, беларусаў у мясцовых „ячэйках" КПЗБ амаль і не было. Аднак з увагі на тое, што амаль 90% жыхароў згаданых ваяводстваў — гэта сяляне, таму і яны менавіта складалі большасць членаў партыйнай арганізацыі. Дарэчы, КПЗБ і адрознівалася ад еўрапейскіх камуністычных партый тым, што была здамінавана сялянамі. Толькі эканамічная і палітычная сітуацыя тагачаснай вёскі дае частковы адказ на пытанне, чаму антысялянская ў сапраўднасці ідэалогія мела каля сямі тысяч прыхільнікаў у гэтым асяроддзі. Ніякі „сялянска-рабочы саюз" не быў падставай гэтага руху — аб чым дзесяткамі гадоў пераконвала афіцыйная прапаганда. Рабочыя з цэнтральнай Польшчы, прывезеныя памешчыкамі на працу ў сваіх латыфундыях, перш за ўсё ўспрымаліся мясцовымі сялянамі як зненавіджаныя канкурэнты, а не як саюзнікі ў „класавай барацьбе".

Членства некалькіх тысяч беларускіх сялян у КПЗБ больш напамінала ўдзел у жыцці нейкай рэлігійнай секты, якая стварала атракцыйны спосаб захавання ў адносінах да неакцэптаванай палітычнай і дзяржаўнай сістэмы. З розных прычын апорай плебейскай апазіцыі не магла быць Царква, тэрызаваная і кантраляваная дзяржаўным апаратам. Папулярнасць КПЗБ была таксама больш вынікам фрустрацыі беларускага сялянства, чым актыўнасці эмісараў Камінтэрна. У драматычнай эканамічнай сітуацыі Заходняй Беларусі не надта нават трэба было што і рабіць, каб выклікаць антыдзяржаўную атмасферу. Яна проста існавала... „Сотні тысяч сялянскіх сямей пухне з голаду... Галодная смерць заглядае ім у вочы", — абвяшчала лістоўка КПЗБ. Сапраўды, шмат людзей было галодных і кожны, хто так пісаў, мог лічыць, што яго словы будуць прыхільна ўспрымацца. „Фашыстоўская дыктатура Пілсудскага, — інфармавала адозва КПЗБ ад 1929 г., — абараняе інтарэсы памешчыкааў і буржуазіі". Ствараўся такім чынам вобраз чорна-белага свету. З аднаго боку галодныя сяляне, з другога — чужая ўлада і багатая арыстакратыя. Селянін марыў, каб наесціся, пракарміць сваіх дзяцей, каб судовы выканаўца не забраў карову ці каня за незаплачаныя падаткі, а пра школу ці культуру асабліва і не думаў. Селяніну жылося дрэнна, а КПЗБ падказвала чаму — бо з яго працы жыў паліцыянт,ураднік, афіцэр, памешчык, які меў зямлю, якой сам не сеяў і не араў, хадзіў сыты і абуты, калі ў той час мужык пакутаваў ад голаду. Кантрасты былі надта відавочныя і не трэба было вялікіх намаганняў, каб выклікаць атмасферу бунту сярод беларускіх сялян. Польская пісьменніца Ева Шэльбург-Зарэмбіна, якая ў Кобрыні прыглядалася судоваму працэсу беларусаў — членаў КПЗБ, дайшла да вываду, што тое, аб чым гаварылі эксперты і пракуроры на тэму праграмы і тактыкі партыі, было зусім незразумелае для абвінавачаных. Слухалі яны нейкія таямнічыя, недаступныя для іх розуму словы пра здраду айчыны, чулі закіды пра агентуральнасць і ірэдэнтызм. Дакладна не ведалі нават за што паслалі іх у турму. (*7599 dni Drugiej Rzeczypospolitej*, Warszawa 1983, s. 198).

На пачатку трыццатых гадоў КПЗБ не мела нават ніякай аграрнай праграмы. Мэтай партыі было мабілізаваць людзей да рэвалюцыі, а не вырашаць іх сацыяльныя праблемы. У палове трыццатых гадоў весткі пра калектывізацыю ў БССР крыху абмежавалі актыўнасць партыі. Чарговыя чысткі партыйнага апарату таксама не спрыялі падрыхтоўцы „народных мас да рэвалюцыі".

Адозва Беластоцкай акругі КПЗБ ад 1935 г. інфармавала насельніцтва: „... калі ў капіталістычных краінах беспрацоўе ахапіла мільёны людзей, а працоўныя масы жывуць у крайняй нішчаце, у Савецкім Саюзе няма ніводнага беспрацоўя, няма нішчаты, ні голаду. У Саветах фабрыкі і ўся маёмасць з'яўляецца ўласнасцю рабочых і сялян. Няма паразітычных класаў, няма эксплуатацыі чалавека цераз чалавека, няма нацыянальнага прыгнёту. Такую сацыялістычную айчыну рабочых і сялян запланавалі знішчыць буржуазія і памешчыкі (...). Але мы станем у абарону Савецкага Саюза". СССР у прапагандзе КПЗБ гэта энклаў справядлівасці, крэпасць, якой пагражала атака імперыялістаў. Партыя мабілізавала людзей дзеля абароны гэтага скарбу працоўных мас.

Зразумела, што ўсе беларускія партыі, усе арганізацыі і палітыкі не звязаныя з КПЗБ акрэслены былі ў прапагандзе партыі як „здраднікі нацыянальнай справы", „парабкі польскага фашыстоўскага ўраду", „смяротныя ворагі рабочых і сялян". Але гэтая дэмагогія стваралася толькі на высокім узроўні кіравання рухам. Вясковыя дзеячы КПЗБ жылі праблемамі свайго асяроддзя — заклікалі не плаціць падаткаў, не выконваць шарварку, арганізавалі камітэты па барацьбе за школу з роднай мовай, пратэставалі супраць паланізацыі царкоўнага жыцця і святкавання ў царкве імянінаў ці дзён нараджэння польскіх маршалаў ці прэзідэнтаў.

На Беласточчыне КПЗБ мела найбольшыя ўплывы ў Васількаве, Супраслі, Гарадку, Міхалове, Заблудаве, Новай Волі, Гайнаўцы, Орлі, Белавежы, Райску, Сямяцічах, Ягуштове, Бельску-Падляшскім. Кантралявала тут некалькі меншых прафсаюзных арганізацый, была ініцыятарам заснавання легальна дзейнічаючых нейкі час партый Грамада ці Змаганне.

У палове трыццатых гадоў пачалося ўнутранае ідэалагічнае змаганне сярод кіраўніцтва партыі вакол пытання ці мае яна далей займацца беларускай нацыянальнай праблемай. Некаторыя лідэры — Леапольд Родзевіч, Язэп Лагіновіч — не маглі на час зразумець, што Сталін рашуча змяніў погляды ў гэтай справе. У 1938 г. КПЗБ была ліквідавана Камінтэрнам, а яе кіраўніцтва — раней абвінавачанае ў супрацоўніцтве з польскай разведкай — апынулася ў савецкіх канцлагерах або ў руках партыйнай паліцыі, якой так ахвярна раней служыла. Структуры камуністычнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі створаны нанава пасля 17 верасня 1939 г., але ўжо на зусім іншых прынцыпах.

# „Беларусы ў Польшчы пасля II сусветнай вайны"

Навуковая канферэнцыя з такім назовам прайшла 18 сакавіка ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Арганізавала яе Беларускае гістарычнае таварыства. З запрошаных гасцей на канферэнцыю прыбылі: саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве **Мечыслаў Часноўскі**, дырэктар аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку **Яўген Біль-Ярузельскі**, віцэ-дырэктар V праграмы Польскага радыё (стваральнік і былая дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва) **Багуміла Бэрдыхоўская**, бурмістр Гайнаўкі **Ядвіга Рудзінская-Патэюк**, войты: Гайнаўкі — **Вольга Рыгаровіч** і Орлі — **Міхал Іванчук**. Віншавальны ліст прыслаў віцэ-міністр культуры і мастацтва **Міхал Ягела**.

Першы даклад выходзіў па-за закрэсленыя часовыя рамкі канферэнцыі. **Данель Бацькоўскі** знайшоў у Інстытуце Гувера ў Станфард (ЗША) дэкларацыю лаяльнасці групы беларусаў, скіраваную ген. Сікорскаму 23 верасня 1942 года ў Тэхеране. Дэкларацыю падпісалі дваццаць бліжэй невядомых асоб. Няма пакуль доказаў, што была яна выкарыстоўвана ў прапагандысцкіх мэтах.

**Славамір Іванюк** гаварыў пра беларускую самаахову вёсак усходняй Беласточчыны ў 1944—47 г.г. Прывёў прыклады вёсак, узброеныя жыхары якіх бараніліся ад рабункаў лясных атрадаў. Дыскусію выклікала пытанне, ці беларускія сяляне арганізавалі гэтую самаахову самастойна, ці адбывалася гэта па ініцыятыве ўладаў.

**Генрык Маецкі** гаварыў пра ўдзел беларусаў у палітычным жыцці ў 1944—47 г.г. Хаця сетка Польскай рабочай партыі была непараўнальна гусцейшай на абшарах, дзе пражываюць беларусы, то не толькі ваяводам ці яго намеснікамі, але нават ніводным з 21 павятовых старастаў у той час не быў беларус. На пытанне Яўгена Чыквіна, ці ў архівах ёсць якія-небудзь доказы, што беластоцкія беларусы пасылалі ў Маскву дэлегацыі з просьбай далучыць гэтую зямлю да СССР (нядаўна прэзідэнт Беластока публічна заявіў, што такія дэлегацыі былі ажно тры), дакладчык адказаў: „гэта выключна міфы".

**Ірэна Матус** прадставіла цікавыя ўспаміны жыхароў Малешаў, Дубяжына, Давідавічаў, Паўлаў і Бельска пра пасляваенную рэпатрыяцыю ў БССР, а **Яўген Мірановіч** — пра сітуацыю беларускага насельніцтва ў Польшчы ў 1949—56 гадах. Беларускім вяскоўцам не было чаго шкадаваць з даваеннай рэчаіснасці, таму з надзеяй глядзелі на народную ўладу ў Польшчы. Цана за доступ да гарадской цывілізацыі — дэнацыяналізацыя — здавалася для іх нічога не вартай.

**Лена Глагоўская** расказала пра беларусаў, якія сілай абставін апынуліся ў Гданьску і яго ваколіцах. Дзве найбольшыя хвалі беларускіх імігрантаў у Прымор'і гэта перасяленцы з Беларусі і Віленшчыны першых пасляваенных гадоў і выхадцы за навукай або працай з Беласточчыны. Арганізаванае беларускае жыццё ў Гданьску звязанае з гэтай другой хваляй, бо першая, хаця часта ўдома захавала беларускую свядомасць, не выносіла яе навонкі. Паказчыкам палітычнай свядомасці гданьскіх беларусаў можа быць лічба галасоў, якую ў Гданьскім ваяводстве ў парламенцкіх выбарах 1991 года ўзяў Беларускі выбарчы камітэт. Было іх 379.

Пра адносіны палякаў да іншых нацыянальнасцей, у тым і да беларусаў, гаварыла **Альжбета Чыквін**. Прадставіла яна плён сацыялагічных апытанняў апошніх гадоў, якія сведчаць што ў Польшчы наогул адмоўнае стаўленне да людзей з іншым колерам скуры, да грамадзян бедных краін і — што насцярожвае — да ўсіх суседзяў.

**Павел Казанэцкі**, які яшчэ нядаўна займаўся беларускай праблематыкай у Міністэрстве культуры і мастацтва, гаварыў пра беларускую апазіцыйную дзейнасць у Польшчы ў 80-ыя гады. Звярнуў ён увагу, што ў гэты час, асабліва сярод маладых беларускіх дзеячоў, мелі месца такія з'явы: моцнае вызначэнне сваёй нацыянальнай тоеснасці, вызначэнне ідэйнай анты-камуністычнай пазіцыі, падкрэсленне сувязі з польскай дзяржавай і сваёй Малой Бацькаўшчынай — Беласточчынай. Гэтай самай тэматыцы датычыў даклад **Веслава Харужага** „Беларускія падпольныя выдавецтвы ў 1980—90 гадах". Аўтар паўтарыў тэзісы са сваёй кніжкі з такім самым загалоўкам, якая нядаўна выйшла друкам.

Матэрыялы з канферэнцыі будуць надрукаваны ў трэцім нумары „Беларускіх гістарычных сшыткаў", дык змогуць з імі пазнаёміцца тыя, хто не змог удзельнічаць у гэтай надзвычай цікавай падзеі.

На заканчэнне хачу адзначыць гасцінны прыём удзельнікаў канферэнцыі як старшынёй Камітэта пабудовы музея **Кастусём Майсенем**, так і дырэктарам Беларускага ліцэя **Яўгенам Сачко**. Дзякуй ім за абед і каву, якія значна падмацавалі сілы сабраных і дапамаглі даседзець у халаднаватым памяшканні да канца задоўжанай сесіі. Арганізатары ў будучыні мусяць больш рэзка патрабаваць захавання часу выступленняў і сачыць за тым, каб дыскусія датычыла тэмы.

**Мікола Ваўранюк**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 423

Рэдактар: Сакрат Яновіч


*Барыс Руско*

## ПАЭТЫЧНАЕ СЛОВА

*Георгію Валкавыцкаму*

У гэтага слова
тысяча твараў
і луг краплісты слёз,
зігзагі белыя маланак
і... адзін суфлёр.
І зоркі,
пагубленыя па дарозе,
і Дзева,
што іх збірае.
І думкі,
складзеныя ў пучок
радкоў цёплых.
І адзін Анёл Ахоўнік.

У гэтага слова
акцёраў многа —
адменна глытаюць
сакавіты біфштэкс
метафар —
і аўтар.
Стаіць пад ліўнем.
Замест парасона,
у руцэ вечнае пяро.

Мал. Міколы Давідзюка

*Зося Сачко*

## 9

ховалі дзісь Хрыста
чуть што розвіднёвало
як вышлі з Плашчэніцою з цэрквы
біэлым цьвіэтом дыхнула вішэнька
росою в тішыніэ пробіэг голос пташкі
ховаемо Хрыста
і шара слёза падае

*(З цыкла „Будні")*

*Віктар Швед*

## ЯК МЯНЕ АДВУЧЫЛІ КУРЫЦЬ

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Дзедка мой, Ілья, падзяліўся са сваім братам Віктарам участкам зямлі і агародам. Віктар, ажаніўшыся, пабудаваў сабе хату, клуню і хлявы. Падчас першай сусветнай вайны выехаў ён у „бежанства", у глыб Расеі, адкуль ужо не вярнуўся. Брата́ву гаспадарку пераняў мой дзед, а па яго смерці мой бацька, які судзіўся за гэтую гаспадарку аж да другой сусветнай вайны, з сястрою дзеда, што была замужам у падгайнаўскай вёсцы Горнае. Суды, быццам п'яўкі, на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя смакталі майго бацьку і ён, ад роспачы, хацеў прадаць сваю гаспадарку і эміграваць у Аргенціну. Перашкодзіла ў гэтым толькі другая сусветная вайна.

У пустую Віктараву хату мой дабрадушны бацька бясплатна ўпусціў жыць старога кавалера Аляксея Філіманюка, які, вярнуўшыся з фронту, запатрабаваў, каб усе звалі яго па бацьку, Пятровічам. Прамата́ў ён сваю хату і агарод і, не маючы ўласнага кутка, бадзяўся па вёсцы; займаўся сталярствам. У камору гэтай жа хаты ўпрасіўся, таксама бяздомны жыхар вёскі Мора, Цімошка са сваёй жонкаю Палашкай. Выразаўшы ў каморы вакно і ўбіўшы гліняную хлебную печ, яны ж там на даўжэйшы час пасяліліся. Былі бяздзетным сужонствам, якое мела ўсяго чацвяртушку зямлі. Працавітая Палашка абягала з серпікам усе вузкія палоскі, а Цімошка, адвячоркам, выходзіў у поле павязаць жончыны снапочкі. Не мог ён многа, асабліва цяжка, працаваць. Перашкаджала яму ў працы агромністая грыжа, якую ў вёсцы называлі кілай. Каб прыкрыць сваю непрыемную калекасць, Цімошка хадзіў у даўжэзнай, аж да каленяў, льнянай карычневай кашулі, падпярэзанай шырокім вайсковым рэменем.

Помню, прыдумаў я тады такую песню ў мясцовым дыялекце, якая пачыналася радкамі:

*Палагейка папку міесіт*
*А ў Цімошкі кілка віесіт.*

Спявалі мы, малыя жэўжыкі, гэтую песню пад Цімошкі вакном і хутка ўцякалі, калі нехта бразнуў клямкаю.

Цімошка, каб занадта не нудзіцца, калі Палашка выходзіла працаваць у поле, прыняў дахаты бяздомнага хлопца Валодзьку, што прыблукаўся ў вёску ажно з Белавежы. Валодзька хадзіў крышку на заробкі да суседзяў, найчасцей, аднак, сядзеў ён з Цімошкам у хаце. Калі дакучаў ім голад, яны шукалі спосабаў забыцца пра ежу. Прыдумалі раптам, што будуць прадаваць вясковым падлеткам папяросы за яйкі. Зрабілі запас курыльных гільзаў, якія напіхалі тытунём. І пачаўся гандаль. Разлік быў просты: папяроса за яйка. Кожны з нас, жэўжыкаў, падбіраў у матчыным куратніку яйкі і нёс іх на абмен за папяросы. Закурвалі на пашы.

Я, таксама, падбіраў. Надакучыла мне ўжо курыць сушанае лісце і вату. Праз дзірку ў кішэні выскуб я і скурыў з сябрамі ўсю вату з палы старой курткі. Кураная вата смярдзела наўкол страшэнным гарам і балюча шчыпала за вусны, горла. Іншая справа сапраўдныя папяросы!

Свае закупкі я не насіў дахаты, захоўваў у клуні. Выганяючы каровы на пашу, я не клаў папяросы ў дзіравыя кішэні, толькі пад шапку на галаве. Выходзячы на досвітку, часта не паспяваў паснедаць і мама прыносіла мне сняданак.

Мая дзіцячая памяць захавала на ўсё жыццё здарэнне, якое канчаткова спыніла маю стажыроўку ў курэнні.

Памятаецца сонечная раніца на пачатку лета. Я, гэтым разам у адзіночку, пасвіў кароў на лужку, за загараддзю. Мая добрая мама прынесла сняданак: бутэльку малака і вялікую лусту чорнага хлеба. Прыселі мы на траву. Узяў я ад маці бутэльку малака, а яна ў міжчасе азіралася, дзе б тут пакласці хлябок, які заўсёды быў у нас святасцю.

— Палажы яго на шапку, — раптам азвалася матуля. А я, міжвольна паставіўшы бутэльку, аберуч схапіўся за шапку. Маці гэта здалося надта падазроным. Сарвала яна мне з галавы тую шапку, з якое пасыпаліся на зямлю папяросіны.

— А ты адкуль іх узяў? — спыталася са злосцю.

Я спрабаваў апраўдвацца, што іх далі мне сябры. Аднак жа, калі я вярнуўся дахаты, раззлаваная маці сцебанула мяне балюча скураным канчуком, што калісьці пакінуў у нас франтавы кавалерыст. Шмат пазней, калі яна, даволі часта, карала мяне і брата гэтай штуковінай, мы парэзалі нажом на кавалачкі той канчук. Пасля лупцоўкі я, вядома, прызнаўся, што папяросы былі за крадзеныя яйкі Цімошку і Валодзьку. Маці пабегла да суседзяў са скандалам.

Болей я не ўзяў у рот папяросу. А Цімошка з Валодзем пабойваліся ўжо прадаваць іх падлеткам, нягледзячы на гэта, што яечня ім надта ж смакавала.

*Івона Марціновіч*

## РАМАНС З МУМІЯЙ

пакіньце мяне ў памяці смерці
аднак уяўленне губляецца ў здагадках
хачу зразумець
якім цудам
дзіўны
народ
фараонаў
здолеў высякаць у парфіры
граніце
і мармуры
лёгкім дотыкам рукі пакінуць імя
для наступных тысячагоддзяў
усё было не кранута да сённяшняга дня
дзе нягледзячы на плач
і просьбу
адной рукой украдзена мумія
чыясьці душа
з базальтавага ложка
маска ажыла
а ў вачах падоўжаных акружаных чорнай фарбай
з'явіўся лёгкі страх
цёплы вецер авяваў вусны
вусны поўныя ўсмяхаючыся
ўсмяхаючыся неапісанай усмешкай сфінкса
паварушыліся застаўшыя пялёсткі лотасу
адкрываючы свае лазуровыя мары
на матавым золаце чала егіпцянкі
срабрысты промень далікатна кранаў шырокі ашыйнік
і два залатыя келіхі
чысты моцны абрыс двух цнатлівых грудзей
гладзіў пяшчотна лона
і птушку святую з галавой барана
з чырвоным шчытом заходзячага сонца
адно нязбытае жаданне прычыняецца што...
багаты становіцца роўным з бедным
як жалюгодны чарвяк
...паўголы раб
сярод спякоты паўднёвага сонца
на яе адкрытых вуснах
трапяталася каханне
як птушка
прагнучы сарвацца ў палёт
у таямнічым слове Азірыса
якая ніколі не разгарнула сваіх гучных крылаў
аднак здрыганула струна рванутая ветрам
колькі чуллівасці
колькі жалю
колькі любові
праяўляе гэтая дэталёвая турбота
нечуваная асцярожнасць
стараннасць дарэмная
якой ніхто ніколі ўбачыць не мог
гэтая пяшчота аддадзена пазбаўленаму чуцця целу
гэтая барацьба з тленам
абагоўленай формы
і адданне яе някранутай душы
ў дзень апошняга злучэння
аднак праданай сучаснасці за 30 срэбнікаў.

* * *

нашы кветкі вянуць хутка
а доказы старажытнага болю застаюцца тысячагоддзямі
сярод пажыраючай спёкі залатога сонца
у магічным закалыханні Онга ляжаў як паліраваны метал
з распаленых лёгкіх гор узляцеў уздых
узляцеў як павеў ветру з вуснаў так доўга замкнёных
промні святла разіскрылі найвышэйшым бляскам каляровыя іерогліфы
і так парушаным стаў апошні сон крохкага зямнога покрыва
незнаёмага фараона адпачываючага ў спакоі ўсе вякі
ажылі акацыі
мімозы
і фігоўцы нахіліліся каскадам лістоў
кідаючы вузкі
сіні
цень на чароўны бляск зямлі
аднак не ўсё спала ў Фівах
у залатой зале небачная рука адвярнула пясочны гадзіннік вечнасці
зрушылася жыццё
на столі захісталіся каралеўскія ўрэі
надзімаючы сінія глоткі
а прыгожыя свяшчэнныя жукі-скарабеі з расправаленымі крыламі да лёту
страсалі пыл таямнічых вякоў
музыка прыглушана таўшчынёй муроў
як кава мела асаблівую асалоду
у песні хісталася маркотная раскоша
раскоша везеная паўголымі весларамі
у містычна пасоўваючымся чаўне
вібравала ў ёй немач знясілы
стомленасць цела
і здранцвенне страсных жаданняў
сваім вухам увабраць гэтую песню
прасякнутую ўсімі патаемнымі
прагамі душы
ёсць вялікае мастацтва
і адкуль гэтая песня
што за трывожная душа падглядвае калі ўсё спіць
о прыгожы егіпецкі...
залаты сон сню
таямнічая сіла егіпецкага цела
мастацтва звязанага правіламі жрацоў
падобнае на чалавека са святымі вуснамі
спрабуе прызнацца ў сваёй тайне
але каму
каму даверыць саркафаг з чорнага базальту
калі
упрашальная сляза плыве па яе прыгожай скроні
па падабенству Ніла
як па пялёстку лілеі
ціха шэпча аб памілаванні
рыдае енкам прыдушанай гарліцы

Зорка
старонка для дзяцей

# У Храбалах

Нядаўна „Зорка" гасцявала ў школе ў Храбалах. Нягледзячы на тое, што надвор'е было мокрае і халоднае, ад сустрэчы асталіся цёплыя ўспаміны. А гэта ўсё дзякуючы цікавым і вясёлым вучням і гасцінным настаўнікам.

Школа ў Храбалах — адна з большых у наваколлі. Вучыцца ў ёй за сто дзетак. Паходзяць яны з адзінаццаці вёсак. Ёсць і такія, што жывуць у ПГРаўскіх блоках. Хаця і дарога ў школу далёкая, асабліва дзецям з самых адлеглых мясцін, вучні не сумуюць. Давозіць іх штодзённа школьны аўтобус. А пры нагодзе, калі вольны час да ад'езду, можна правесці час у святліцы, паглядзець відэафільмы, пагуляць у шахматы, ці паскладаць „puzzle".

Дырэктар Валянціна Гаўрылюк пахваліла сваіх вучняў. Ї ёсць за што. Многія з іх праслаўляюць сваю школу ва ўсялякіх конкурсах. „Зорку" асабліва ўцешыла вестка, што самай вялікай папулярнасцю карыстаюцца беларускія конкурсы. Марта Алексяюк з VIII класа дайшла нават да ваяводскага конкурсу па беларускай мове. Рыхтавала яе настаўніца Ірэна Ефімюк. Навучае яна тут роднай мове ўсе класы.

Цешыць і тое, што амаль усе праваслаўныя дзеткі вучацца роднай, беларускай мове. Усе яны ведаюць мясцовы, палескі дыялект. На такой мове мы нават гаварылі ў II класе. Мае новыя сябры толькі што пазнаюць літары. Іхняя беларуская група налічвае 7 вучняў. У класе толькі 2 дзяўчынкі. Сёння прысутнічае толькі Івонка Паўлючук з Храбалоў. Яе сяброўка, што разам ходзіць на беларускую мову, Волечка Гадун, захварэла.

Каміль Ігнацюк і Крыстафор Леснік — хлапчукі з Плёсак. Калі Каміль падрасце, будзе, як старэйшы брат, прыслужнікам у царкве. Крыстафор заявіў, што займецца таксама нечым не менш цікавым.

А што робяць другакласнікі, калі вернуцца ў сваю вёску Кнаразы?

Войтэк Крышпінюк, Пятрусь Сідарук і Андрэй Ваўранюк — калегі. Прызналіся „Зорцы", што між сабой ніколі не сварацца. Хлапчукі разам гуляюць у мяч, забаўляюцца ў хованкі ды „закляпанкі".

Усе другакласнікі прыгожа малююць. Паабяцалі, што і ў „Зорцы" пакажуць свае малюнкі са школьнага свята. Трэба вам ведаць, што неўзабаве храбалоўскія вучні будуць святкаваць першы дзень вясны. Ужо зрабілі яны куклу „Мажанны", якую панясуць тапіць. А рака тут блізка-блізюсенька, амаль за самай школай.

Ї думаю, што ўсім чытачам „Зоркі" прыемна будзе пабачыць малюнкі з такога свята.

Тады да наступнай сустрэчы, каханыя!

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**



*Другакласнікі з "Мажаннай".*


*Настаўніца беларускай мовы Ірэна Ефімюк (злева) і дырэктар школы Валянціна Гаўрылюк.*


*На перапынку.*

*(Пра храбалоўскіх вучняў, школу і настаўнікаў чытайце ў наступных нумарах „Зоркі").*

# Старажытныя беларускія дзяржавы

Яшчэ доўга да хрысціянскіх часоў на абшары сённяшняй Беларусі існавалі праявы дзяржаўнасцей.

У VI ст. на большую частку нашага краю пачынае пранікаць славянскае насельніцтва. Яно мяшаецца з мясцовымі балцкімі плямёнамі і ў выніку гэтага фарміруецца старабеларуская нацыя. Археолагі даказваюць, што ў гэты час была ўжо своеасаблівая, беларуская культура. Называем яе Банцараоўскай, ад назвы гарадзішча каля вёскі Банцароўшчына, што пад Менскам.

У VIII ст. узнікаюць ужо племянныя саюзы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. З іх пазней паўстаюць княствы-дзяржавы.

У X ст. на Беларусі найбольш вядомыя Полацкае, Смаленскае і Тураўскае княствы. Варта адзначыць, што і ў нашай Беласточчыне існавала дрыгавіцкае княства-дзяржава Драгічын.

Аднак найбольш вядомым, магутным і вялікім было Полацкае княства. Сталіцай, зразумела, быў Полацк, ад якога і паходзіць назва княства. У гэтай дзяржаве была свая княжацкая дынастыя — Рагвалодавічаў, сваё войска, веча, грашовая сістэма, школы, метраполія. Полацкае княства ў часы сваёй найбольшай экспансіўнасці было самай вялікай усходнеславянскай дзяржавай. Яно сягала ад Балтыйскага аж па Чорнае моры.

*(працяг будзе)*
**З-ка**

# ПРА ПАХОДЖАННЕ БУСЛА

*(легенда)*

Было гэта вельмі даўно. На зямлі развялося такое мноства гадаў, што не стала ад іх жыцця ні людзям, ні жывёлам. Ї параішыў адзін чараўнік знішчыць гадаў, патапіць у якойсьці бяздонніцы. Сабраў ён іх у вялізны скураны мяшок, завязаў, узваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае прадонне. Як толькі чалавек рушыў з месца, то ўсе гады, якія былі ў мяшку, заварушыліся, засіпелі, засвісталі. Ї ўзяла чалавека цікаўнасць, што ён такое нясе.

Чалавек развязаў торбу ды і аслупянеў ад жаху. Гады ж тым часам вылезлі і распаўзліся ізноў па зямлі.

Разгневаны чараўнік не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь і, накінуўшы на чалавека парожні мяшок, ператварыў яго ў бусла і загадаў збіраць гадаў-уцекачоў усё яго жыццё аж да самай смерці.

Ї ходзіць гэты ператвораны ў бусла чалавек з накінутым на плечы мяшком па лугах, палях, балотах ды збірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць не можа. З прычыны сваёй крэўнасці да чалавека гэты пярэварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей.

## ВІНШАВАЛЬНЫ ЛІСТ

Беласток, 17 сакавіка 1995 г.

*ДАЗВОЛЬ СЯБЕ КАХАЦЬ*

*Мне сумна так, мне сумна, дарагая,*
*Балюча так, што цяжка слёз стрымаць.*
*Прашу цябе, прашу я, умаляю:*
*Дазволь цябе, дазволь цябе кахаць.*

## ШАНОЎНЫ ВІКТАР ШВЕД

Вашыя чароўныя вершы спадарожнічаюць нам ад ранняга дзяцінства. Цяпер таксама, калі сустракаемся на сяброўскіх вечарынах або ладзім вогнішчы, спяваем песні на словы Вашых вершаў.

У Вашыя 70-я ўгодкі прыміце ад нас, ліцэістаў, найлепшыя пажаданні — самых удач у творчым і асабістым жыцці!

**Беларуская група з IV Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку**

*Віктар Швед з дачушкай Натталькай, гераіняй многіх вершаў.*
**Фота Ады Чачугі**

## Вершы Віктара Шведа

**Каўбой і „каўбойка"**

— Я кахаю не на жарты,
Адазвалася Наташа.
Падабаецца мне Бартэк,
Хлопчык у прадшколлі нашым.
Ну а сёння ён такое
Мне сказаў надзвычай бойка:
— Буду я тваім каўбоем,
Станеш ты маёй „каўбойкай".

**Пачытай мне казку**

Увечары Ната
Просіць: — Калі ласка,
Даражэнькі тата
Пачытай мне казку.
Аб дзівосным смоку
Тата ёй чытае,
Пакуль сном глыбокім
Не засне малая.

**Адпраўляла Ната тату**

У дарогу тату
Адпраўляла Ната.
І трымае за руку
Ната тату ў цягніку.
Цягнік рушыць за хвіліну,
Сумная ў Натальки міна.
Выйшла з мамай на перон
З хусцячкаю наўздагон.

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

**Беласточчына**

*Словы Віктара Шведа*

a
Беласточчына, ты зямля мая,
C G C
Я кахаю цябе і люблю.
d G CE a
Ты мне блізкая, ты мне родная, } 2x
d E d
Я люблю прыгажосць, тваю.

У небе птушак спеў, залацісты спеў,
Што так льецца, плыве над зямлёй,
Над лясамі, нівою залатой
Я люблю гэты птушак спеў. } 2x

Калыханне ніў, шэпт высокіх траў
Над ракою і на лугах.
Зелень чыстая, неба чыстае
Як мне гэтага не кахаць? } 2x

*Ян Баршчэўскі*

## Ваўкалак

**(4)**

*(заканчэнне; пачатак у 11 н-ры)*

— Ты не выйдзеш з гэтай лясной пустэчы. Нападуць на цябе дзікія звяры і разарвуць. Ідзі лепш у маю хаціну, у мяне жыць весела, штовечар скокі і песні. Ты ж маладая дзяўчына і, відаць, любіш паскакаць?

Не хацела спачатку яе слухаць, але, падумаўшы, што ў гэтых дзікіх лясах ніхто мне не дапаможа, згадзілася з яе прапановаю. Не разумею, як я апынулася ў хаціне ў гэтай чараўніцы. О, пракляты ваўкалак! Чаму ж ты мяне не разарваў у лесе? Лепш памерці, чым быць цэлы дзень зверынём і толькі на хвіліну забываць пакуты.

Слухаючы Ганчыны наракані, задрыжаў я ўвесь, імгненна ператварыўся ў ваўка. І адазваліся ў памяці: бацькава роспач, лямант няшчаснае дзяўчынкі, і сабакі пачалі рваць маё цела. Кідаюся ў лес, бягу ўсю ноч без спачынку — нідзе не магу схавацца ад жахлівага ўспаміну і пагоні страшных сабак.

Нясцерпнае зрабілася жыццё, нідзе не знаходжу спакою, бегаю ў роспачы па гарах і лясах; страціў ужо і надзею, што калі-небудзь хоць на хвіліну пакінуць мяне пакуты.

Блукаючы без адпачынку, прабягаў неяк ля палетка, дзе ў цяньку ад прыдарожных бяроз палуднавалі сяляне. Бачу: едзе па дарозе ксёндз, спыняецца, падыходзіць да сваіх парафіянаў. Пачалася доўгая размова пра розныя духоўныя рэчы: ксёндз іх павучаў, каб жылі між сабою ў згодзе і сяброўстве, даравалі адзін аднаму крыўды і не думалі ніколі пра помсту, бо помста найбольш супярэчыць рэлігіі і агідная Богу. Яна зневажае чалавечую годнасць да стану жывёлы, а дабрачыннасць і лагоднасць улагоджвае міласэрнасць Божую.

Схаваўшыся ў густым кустоўі, я чуў усе словы ксяндза і адразу вырашыў не толькі не шкодзіць людзям, але нават старацца ім служыць і дапамагаць у чым толькі змагу, а можа, і нада мною Бог злітуецца, душа ж мая несмяротная. З гэтымі думкамі і пакінуў ксяндза і сялян.

Прайшло колькі дзён. Блукаючы, думаў сам сабе: што я змагу зрабіць добрага ў такім пагарджаным усімі воўчым абліччы? Ледзь падыду да чалавечага жытла, як усе крычаць на мяне і сабакамі цкуюць, і мушу як найхутчэй уцякаць у лес.

Аднак жа не адмовіўся ад свайго намеру. Колькі разоў адганяў лісіцу, што падкрадалася да гусей ці індыкоў, якіх пакідалі неабачліва ў полі. Калі заўважыў непадалёку ад гавяды мядзведзя, дык выбег першы з лесу, каб адагнаць статак з небяспечнага месца і папярэдзіць пастухоў. Не раз адбіраў барана, якога воўк выхапіў з чарады якой-небудзь беднай удавы. Так жывучы, я крыху супакоіў свае думкі, мог ужо заснуць, хоць і ненадоўга; у сне мілыя мроі нагадвалі мне мінулае, калі быў яшчэ чалавекам.

Было гэта ў жніўні ў добрае надвор'е. Я блукаў у родных ваколіцах, калі на палетках даспела збажына. Недалёка ад сябе бачу Алену. Яна жала на сваёй ніве, а на мяжы, лежачы на снапах, спаў маленькі хлопчык. З прыемнасцю глядзеў я на гэты малюнак, цешыўся, што Алена шчаслівая, спакойна жыве са сваёю сям'ёю. Бог блаславіў іх гаспадарку, і жыта добра ўрадзіла на іх ніве. Пакуль я любаваўся на ўсё гэта, выскоквае воўк з лесу, хапае хлопчыка. На крык дзіцяці кідаецца матка.

— Ратуйце дзіцятка маё! — крычыць яна і падае непрытомная.

Я даганяю ваўка, адбіраю не пакусанае яшчэ дзіця, адношу да маткі. Суседзі, што прыбеглі на ратунак, дзіваваліся з усяго гэтага, а я ўцёк у лес.

Нейкае прыемнае пачуццё і ціхамірнасць ахінулі мяне пасля гэтага здарэння. Лёг пад дрэвам і заснуў у салодкіх мроях. Вярнуўся ў сне ў сваю шчаслівую маладосць, і так мне было лёгка, што, як птах, лётаў з месца на месца. Бачу перад сабою такі прыгожы сад, якога ніколі ў жыцці не сустракаў; гай, поўны птушынага шчабятання, а пёры на іх лепшыя і прыгажэйшыя, чым нашы вясновыя краскі; чыстыя крынічныя воды струменіліся тут і там; некаторыя дрэвы былі ў квецені, а на іншых даспявалі плады. Заўважыў на пагорку келіхі велізарных лілей, якія разлівалі свой водар. Толькі хацеў сарваць колькі кветак — з'явілася перада мною Ганка (сукенка на ёй белая, як лілея) і кажа мне:

— Не зрывай мне кветкі. Я садзіла гэтыя лілеі на сваёй магіле, палівала слязамі сваімі.

І, сказаўшы так, знікла.

З саду пералятаю зноў у нейкую дзікую пустэчу; блукаю сярод стогадовых хвояў, ледзьве знаходжу сцяжынку, якая выводзіць мяне з нейкай велізарнай гары; хачу залезці на вяршыню, агледзець ваколіцы, убачыць адтуль вёску, дзе колісь была хата маіх бацькоў, але з усіх бакоў гары — бездань, якая не дазваляе ісці далей. Тут сустракаю нейкага Волата. Ён бярэ мяне за руку, загадвае ісці за ім, выводзіць з лесу на велізарнае поле, дзе крыжуюцца дарогі, і мноства там падарожных, што едуць або ідуць пеша. Узыходзім на пагорак, дзе была магіла. На ёй стаяў драўляны крыж, а непадалёку тырчала ўбітая ў зямлю рыдлёўка. Волат загадвае мне адкапаць магілу і дастаць адтуль мерцвяка. Ахоплены страхам, выконваю ўсе Волатавы загады, дастаю з зямлі велізарны шкілет.

— Гэта будзе тваё цела, — гаворыць мне велікан. — Мусіш плакаць у ім, пакуль не пакліча цябе да новага жыцця...

Я дрыжаў увесь ад страху, прасіў, каб даў мне спакой, але Волат моцна штурхнуў мяне, і я ўпаў на велізарныя грудзі шкілета, а разам з ім — у яму. Дужаючыся са смерцю, я прачнуўся.

Бачу: я — чалавек. Вопратка тая самая, якую я надзеў колісь, ідучы на Аленіна вяселле. Не веры́ў, што гэта было наяве. Баяўся скрануцца з месца, абы толькі не зніклі такія салодкія мроі. Доўга быў я ў задуменні, падняў вочы на неба і дзякаваў Богу, што ўратаваў мяне ад гэтага жаху.

Падняўся я з долу з невыказнаю радасцю. Здавалася мне, што ўсе дрэвы і птушкі віншавалі мяне з новым жыццём. О, як соладка спазнаць міласэрнасць Божую! Жахлівы лёс чалавека можа зраўняцца са звярыным.

## ЗАГАДКІ

* Вярхом сядаю, на кім — не знаю, знаёмага ўбачу — адразу саскочу.

* Ішоў, ішоў — дзве дарогі знайшоў і ў абедзве пайшоў.

* Пад прыпечкам рубяжы, а хто ведае — не кажы.

* Зверху гола, знізу калмата, цяплом багата.

* Ты ідзі туды, а я сюды і сыдземся на пуповай гары.

* Сам у ботах, а хаджу на галаве.

* Між пяці бочак залаты вяночак.

* Складзеш — клін, развернеш — блін.

-------------------------------

*(Шапка, штаны, пацеркі на шыі, кажух, рэмень або пояс, цвік у боце, пярсцёнак, парасон).*

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ АБ НАДВОР'І

* Авечкі паміж сабою стукаюць ілбамі — на вецер.

* Вакол месяца чырвоны круг — хутка будзе дождж з ветрам.

* Вароны купаюцца ранняй вясною — будзе цёпла, лятаюць чародамі — на непагоду.

* Вераб'і купаюцца ў пыле — будзе дождж.

* Гром у верасні — восень доўгая і цёплая.

* Гусі мыюцца перад дажджом.

* Захад сонца ў чырвані — будзе вецер, ясна-жоўты — будзе дождж.

* Зоркі ў тумане — на дождж або снег.

* Калі бяроза перад вольхай ліст распусціць, то лета будзе сухое; калі вольха — лета мокрае.

* Калі без ветру дым з коміна сцелецца па зямлі, то летам чакай дажджу, а зімою — снегу.

* Калі вечарам сонца заходзіць за хмару, то заўтра чакай дажджу або пахмурнай пагоды. Калі ж сонца не заходзіць за хмару — дзень будзе пагодны і ясны.

* Калі вечарам туман ад зямлі або ад вады падымаецца ўверх — наступны дзень будзе спакотны.

* Калі вясёлка яскравая — будзе непагадзь.

* Калі вясёлку бачым пад вечар — будзе сонечнае надвор'е, а з раніцы — будзе дождж.

## НАШЫ КАРАНІ

### LXXVII. ДУШАХВАТЫ.

Уніяцкі мітрапаліт Пацей заўсёды захапляўся езуітамі, іх дзейнасцю па вынішчанню іншых хрысціянскіх канфесій, асабліва праваслаўя, да спадобы яму быў іхні дэвіз: *мэта апраўдвае сродкі*, безумоўны ўнутраны вайсковы рэжым, бязмежная фальшывасць у адносінах да некатолікаў, незвычайная адданасць свайму ордэну і г.д. І вось галоўны уніят стаў марыць пра стварэнне такога ж, па ўзору езуітаў, уніяцкага ордэна. У асобе шматразовага перабежчыка з пратэстанцтва ў праваслаўе і з праваслаўя ў каталіцызм і наадварот Івана Юзэфа Вельяміна Руцкага, родам з-пад Наваградка, выхаванца рымскай Уніяцкай калегіі, знайшоў Пацей гарачага і адданага прыхільніка свае ідэі. Яны разам заснавалі па ўзору езуітаў новы ордэн — ордэн базыльянаў, з такой самай сістэмай вайсковай дысцыпліны, густой сеткай школ, якія праваслаўную моладзь абярталі ў фанатычных уніятаў, заганяючых гвалтам праваслаўных ва унію. Увесь ордэн базыльянаў быў падпарадкаваны галоўнаму заданню — навяртанню праваслаўных на унію і ўсімі сіламі разнастайнымі спосабамі знішчанню праваслаўя.

Пасля смерці Пацея папа рымскі прысвоіў Руцкаму званне генерала базыльянаў і назначыў яго на пасаду уніяцкага мітрапаліта. Руцкі неўзабаве амаль усе праваслаўныя манастыры ў Рэчы Паспалітай загнаў ва унію і перарабіў у базыльянскія кляштары, у тым ліку і Супрасльскую лаўру. Папа Урбан VIII у спецыяльным падзячным лісце ўслаўляў Руцкага *за навяртанне на святую унію каля двух мільёнаў схізматыкаў.*

За часы свае дзейнасці базыльяне разам са сваімі старшымі братамі-езуітамі апанавалі і амаль цалкам паланізавалі ўсю Беларусь. Напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай ва ўладанні базыльянаў было каля 150 кляштараў, пры большасці з іх дзейнічалі школы і друкарні. Да ордэна належала больш за 20 тысяч паншчынных сялянскіх сем'яў. Базыльяне ўславіліся страшэнным здзірствам і бесчалавечнымі адносінамі да сваіх падданых, між іншым, з фальваркаў, што належалі Супрасльскаму уніяцкаму кляштару на пачатку XVIII ст. уцякло больш за палову падданых, відаць, не ад раскошнага жыцця пад прыгнётам базыльянскіх „законнікаў". У базыльянскіх кляштарах жыло мноства рымa-каталіцкіх манахаў. Яны прывівалі базыльянам лацінскі абрад, польскія кляштарныя абычаі, польскую мову ў штодзённым ужытку. Асабліва пасля 1773 года, калі быў скасаваны езуіцкі ордэн, тады амаль усе езуіты перайшлі ў базыльянскія кляштары, былі ў іх прыняты з адкрытымі абдымкамі і ператварылі іх па сутнасці ў езуіцкія — цэнтры каталіцкага польскага шавінізму.

Руцкі хапаўся самых нікчэмных спосабаў, каб вынішчыць праваслаўнае духавенства. Разам са сваімі біскупамі яны пісалі розныя выдуманыя даносы на праваслаўных духоўных, брацтвы, свецкіх дзеячоў, абвінавачваючы іх у супрацьдзяржаўных змовах, здрадзе, ганьбаванні караля і г.д., а за гэта ў тыя часы, як вядома, пагражалі смяротныя прысуды, або пажыццёвае зняволенне ў падзямеллі.

Руцкі не лічыў праваслаўных за людзей. За яго часоў праваслаўе на Беларусі і Украіне перажыло самы цяжкі, самы змрочны перыяд. Калі ў 1637 годзе ён памёр, усе прынялі гэта як вялікую ласку Божую, нават уніяты і тыя адрыта цешыліся.

Фанатычным выхаванцам Пацея і Руцкага быў Іасафат Кунцэвіч. Паходзіў ён з праваслаўнай мяшчанскай сям'і з Уладзіміра-Валынскага. Падчас навукі ў брацкай праваслаўнай школе ў Вільні трапіў у вока езуітам, і тыя перацягнулі яго ў сваю акадэмію. Хлопец быў надзвычай здольны, але хісткі ў сваёй веры і пад уздзеяннем езуітаў перайшоў на унію. Езуіты перадалі яго Пацею і Руцкаму, і тыя сталі рыхтаваць яго на уніяцкага дзеяча. У хуткім часе пад іх уплывам ён стаў заядлым прапагандыстам уніі. Пасля прыняцця пострыгу яго паставілі абатам некалькіх базыльняскіх кляштараў. Ужо ў першыя гады свае дзейнасці ад праваслаўных і сваіх жа уніятаў запрацаваў ён прозвішча „душахвата" ды ўсеагульную нянавісць і пагарду. Але Руцкі, хоць і ведаў пра тое, усё мацней заахвочваў яго да далейшых „подзвігаў". Узвёў Кунцэвіча на пасад арцыбіскупа полацкага, аддаючы яго ўладзе ўсю паўночна-ўсходнюю Беларусь з Полацкам, Віцебскам, Оршай, Магілёвам. Іасафат Кунцэвіч з дзікай раз'юшанасцю накінуўся на праваслаўных таго рэгіёна: разбураў або апячатваў цэрквы, заганяў праваслаўных ва унію. У адказ аднойчы жыхары Магілёва сустрэлі яго са зброяй у руках, стралялі па ім таксама і ў Оршы. У адказ на тое Кунцэвіч засыпаў караля даносамі і скаргамі, а той высылаў карнікаў, праследаванні праваслаўных узмацняліся.

Беларуская шляхта скардзілася каралю на Кунцэвіча: *Біскуп полацкі сёлета наўмысна наказаў жыхарам дзеля большага паніжэння выкапаць з магіл* (праваслаўных — МГ) *нябожчыкаў, нядаўна пахаваных на могільніку і выкінуць сабакам на разарванне.* Але ні кароль, ні мітрапаліт не паварушылі нават і пальцам, каб спыніць гэтыя злачынствы уніяцкага арцыбіскупа. А Кунцэвічу таго толькі і трэба было: стаў ён вычвараць усё, чаго толькі пажадала яго неафіцкая уніяцкая душа. Пачаў ён дамагацца ў канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі дапамогі ў канчатковым разгроме праваслаўя.

Сапега — хаця і сам свежаспечаны католік, адзін з галоўных ініцыятараў уніі і гарачы яе староннік — вельмі востра асудзіў дзейнасць арцыбіскупа полацкага, яго зверствы і злоўжыванні уладай. Канцлер яму, між іншым, пісаў: *Вашэцява святасць, як разумееш, дазваляе вам рабаваць схізматыкаў і адсякаць іхнія галовы: Евангелле ж вучыць зусім іншаму. Гэтая унія стварыла вялікую бяду... Унія не прынесла радасці, адно толькі нязгоду, калатнечу і бязладдзе. Было б намнога лепш, каб яе ніколі не было сярод нас... Трэба сцерагчыся, каб гэтая унія не стала прычынай тваё і нашай згубы...* Гэтак ацэньваў унію той самы канцлер, які чвэрць стагоддзя таму назад моцна прычыніўся да яе стварэння. Але да Кунцэвіча гэта не прамовіла. Ён схапіў пяро і напісаў каралю і папе рымскаму агідныя даносы на Сапегу, а праз некалькі дзён рушыў у Віцебск і там разам са сваімі жаўнерамі ўсчаў пагром праваслаўных капліц, пабоі праваслаўнага духавенства. Насцярожаныя, даведзеныя да крайнасці віцябляне, узброіўшыся ў камяні ды калы, рушылі на біскупаў палац, разагналі ахову, уварваліся ў келлю Іасафата, забілі яго, а труп вывалаклі вонкі і ўкінулі ў Дзвіну. Сталася тое 12 лістапада 1623 года.

*Жорстка былі пакараны праваслаўныя жыхары горада Віцебска за расправу з Кунцэвічам,* — піша адзін з дарэвалюцыйных рускіх гісторыкаў. — *Болей за сто чалавек былі засуджаны на смерць, многіх пакаралі пабоямі бічамі, турмою, выгнаннем; маёмасць усіх удзельнікаў расправы была канфіскавана; горад пазбаўлены магдэбургскага права, забраны вечавы звон — знак самакіравання і свабоды горада, ратуша, у якой нарадзіўся замах на Кунцэвіча, была разбурана. Разбурылі і саборную Свята-Прачысценскую царкву, пры якой стаяў біскупаў палац, замест яе на кошт віцяблян быў пабудаваны пышны, аграмадны уніяцкі касцёл, усе жыхары Віцебска былі гвалтам загнаны ва унію, так што не засталося ў ім і следу аб праваслаўі.*

Астанкі Кунцэвіча доўга вандравалі па беларускіх землях. Яны захоўваліся ў Полацку, Жыровічах, Белай на Падляшшы, Замосці на Люблінішчыне, зноў у Полацку. У рэшце рэшт іх забралі ў Рым. Цяпер яны знаходзяцца ў саборы св. Пятра, там дзе і рэліквіі Рыгора Багаслова і Іаана Залатавустага. Штогод папа Іаан Павел II 12 лістапада правіць пры мошчах Іасафата паніхіду і выслаўляе яго як „апостала ўз'яднання". І кожнаму праваслаўнаму хрысціяніну ясна, што гэта абазначае для сённяшняга і заўтрашняга дня.

**Мікола Гайдук**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1991—09—30.**

„*Белавежа '91* (27—29.09). Другі ўжо такі сімпозіум. Арганізаваў Антось Мірановіч. Трэба прызнаць, добра! Ён мяне гэтым здзівіў, бо я чакаў балагану, як на папярэднім або і горай.

Быў лідэрскі эшалон БНФ (Голубеў, Хадыка, Вячорка і інш.; больш дзесяці асобаў). Крыху важных з эміграцыі — Станкевіч, Мельяновіч, і яшчэ двух ці трох. Ну і акуратная палова Галоўнай Рады БДА. — *Ніва* апублікавала рэляцыю.

Не было — не прасілі — палякаў. Зноў гвалту начаўпуць?

*Белавежа* паказала, як хутка вырасла нам палітычная эліта; скінула з сябе інфантылізм дэмагогіі. Прычым, характэрна, да гэтай беларускай палітычнай імпрэзы — праўда, сціпла элітарнай, — далучалася Царква (уладыка Сава дэлегаваў айца Місеюка, які, спецыяльна для гасцей, саслужыў з белавежскім святаром абедню і сказаў патрыятычную пропаведзь; малазразумелыя звычайным вернікам проціуніяцкія ягоныя акцэнты фактычна датычылі аднаго прафесара Юрася Хадыкі, які сапраўды нешта ватыканскае праводзіць, у Менску). Сітуацыя, вось, непадобная да мінулагодняй: яшчэ не было Рэспублікі Беларусь. І, праўдападобна, не будзе патрэбы ў — *Белавежы'92*... Сімпозіум, наступны, наладзіць — звычайна, бязбоязна, — Менск? (...)

**1991—10—20.**

(...) Спрабаваў Яўген Лецка пабыць на сённяшнім пленуме ГП БГКТ, але Барскі, як старшыня, не дазволіў яму, аргументуючы, што... няпольскім грамадзянам нельга, вось... Нічога, што Лецка — шэф Управы Згуртавання Беларусаў Свету *Бацькаўшчына*; пайшоў вон, бы мылам змыты, бо... нашто мае ведаць пра скандалы. (...)

**1991—11—10.**

Двух з Марбурга (Гесен), з Інстытута Гердэра; адзін з іх — Хайнрых Мроўка (Mrowka) вядзе Прэс-архіў. Бяруцца вывучаць беларусаў і, як гэта ў немцаў, метадычна ды салідна. Не мелі яны аніякае арыентацыі ў існаванні беларусазнаўчых цэнтраў на Захадзе; відаць, не чытаюць там у іх *Нівы*, хоць і маюць гадавікі яе ад 1957 г. — Даў я ім для ксераграфавання свой прэс-архіў, відэакасеты дзеля копіяў (...), бібліяграфію польскай беларусіяны, etc. Пазнаёміў — з Генікам Міарновічам як даследнікам нашага тут беларускага пасляваення; зарэкамендаваў Давідзюка, Туронка, Тамашэўскага.

Беларускія зацікаўленні ў Гердэра запачаткаваў нябожчык Родэ, рэцэнзент *Białorusi, Białorusi* (— Gotthold Rhode).

Прыблізна ў двух трэціх сфастрыгаваў я ўжо чарнавы варыянт справаздачнага даклада Галоўнай Рады БДА.

**1991—11—15.**

Луба прывёз з Менску газету *Добры вечар* ад 12-га, у якой — інтэрв'ю Міколы Давідзюка *Палітыка застаецца за дзвярыма майстэрні.* Кажа ён у ім: *...крыху Вас расчарую наконт Беласточчыны: гэта ўсё міф. Беларускасць яшчэ неяк трымаецца на вёсках на ўзроўні фальклору (...). Праўда, ёсць яшчэ жменька дзівакоў, беларусаў-інтэлігентаў, якія робяць намаганні, каб захаваць свае карані, сваю беларускасць, адрадзіць былое. Але, калі на Беларусі ёсць яшчэ такі шанц, то на Беласточчыне, лічу, гэтага ўжо не можа быць. Гэта бесперспектыўна, нават сярод інтэлігенцыі, бо яна прыстасоўваецца да таго, што ёсць, каб лягчэй пражыць* (..).

На студэнцкіх *Атрасінах* (імпрэза БАСу). Пад паўтары сотні дзяўчат і хлопцаў. Сярод іх, як бы ў пацвярджэнне Давідзюковага прагнозу, толькі лічаныя адчувалі патрэбу азвацца сяды-тады па-беларуску або на мове дыялекту. А жа ж у пераважнасці яны з т.зв. беларускіх ліцэяў. Вядучыя гульні — павадыры — гаварылі з так моцным польскім акцэнтам, а яшчэ і беларуска-польска-беластоцкім слэнгам, што не стрываў я гэтага ды пайшоў прэч дамоў! У іх няма імператыву беларускасці.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

— Віталь Луба, тадышні галоўны рэдактар Нівы,

— Згуртаванне Беларусаў Свету Бацькаўшчына ўтворана ў Мінску дзеля ўсталявання ўсебаковых сувязяў з беларусамі, што пражываюць за межамі Беларусі;

— пытанне адраджэння уніяцкай веры, некалі пераважаючай у Беларусі, зусім неактуальнае на Беласточчыне, але дыверсійна падагрэтае тут, у нас, дзеля грамадскай кампраметацыі беларускага нацыянальнага руху; тактычны гэта быў ход некаторых палітыкаў канфесійнай, праваслаўнай, арыентацыі, разлічаны на раскол тутэйшага электарату, што ў выніку і скончылася фатальным пройгрышам тых і тых у апошнія парламенцкія выбары, нягледзячы на аб'яднанне ўрэшце ў 1993 г. праваслаўнай плыні з беларуска-народнай.



*БАРЫС РУСКО*

### Непаладкі

Дзіва! Неба церпіць зграю самалётаў.
Хіба, праз памылку.
Іншая справа, птушкі —
абшарпаныя абнаўляюць аблокі;
і гнёзды гатовы звіць там,
а неба — і многадзетнае
і сямейнае.
Абшар без столі
толькі гарызонт ва ўцёках.
Матылі змятаюць з зелені пыл
і за гэта атрымліваюць плату.
А гар рэактыўны асляпляе птушкі,
і яны блытаюць пары года.
А чаўнакі крэкчуць воддаль,
як гігантычныя рапухі.
Неба — абшар прылашчаны
ў малітве.
На вялікім купале святыні
асядае копаць
незразумелай Праўды.

### Эпізод

Блытаюцца ногі пад ношай гадоў.
А дарога ні кароткая, ні простая.
Сцелецца сіні дым спапялелых крокаў
Усяму свой канец.
Дзень бяжыць да ночы,
  а крык гасне ў цішы,
  а слова гіне ў шэпце,
  а мроя стыне ў сумненні.
То дотык часу гасіць свечку ў далонях —
нязначны эпізод жыцця.

### Шар

Лінія абягае контуры
формы.
У экватара канцы
спалучаны.
Экспрэс, што імчыць па ім,
кіпіць ад злосці,
бо блудзіць,
бо дзе канчаецца
вобад?
Фігуры чакаюць,
перон утоптваюць
па шыю.
А колы коцяцца па шары
ў бясконцасць.



© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Аб малітве „Ойча наш"

**„Ойча наш,
які ёсць у нябёсах"
(4)**

З гэтых слоў малітвы Гасподняй вынікае, што неба, як духоўная Айчына, з'яўляецца для верніка яго Айчынай адзінай і галоўнай, што заглядзеўшыся на нябесны рай, ён не здольны будаваць і клапаціцца пра сваю Айчыну зямную. Гэты цалкам фальшывы погляд шырока выкарыстоўвала ў сваіх мэтах атэістычная прапаганда.

Фрыдрых Энгельс пісаў, што надзея хрысціян у небе і ў вечным жыцці, у сувязі з чым хрысціяне не імкнуцца правесці сацыяльныя пераўтварэнні ў свеце. Евангелле, паводле Энгельса, „усхваляе пасіўны супраціў, бунт на каленях, фактычна апраўдваючы прыгнёт і галоўнае сацыяльнае зло старажытнасці — нявольніцтва".

Карл Маркс у падобным духу пісаў: „Сацыяльныя прынцыпы хрысціянства апраўдвалі старажытнае нявольніцтва і ўслаўлялі сярэдневяковае падданства... Усякае выраўнаванне крыўдаў яны пакідаюць небу... Неабходным лічаць існаванне пануючага класа і класа прыгнечанага, різлічваючы толькі на велікадушную літасцівасць паноў".

Ленін пісаў Максіму Горкаму, што „ідэя Бога была заўсёды ідэяй нявольніцтва... Яна звязвала прыгнечаныя класы аковамі веры ў боскасць прыгнятальнікаў".

Усе гэтыя мудрагельствы надта павярхоўныя і неаб'ектыўныя. Галоўная ідэя Евангелля асноўваецца на закліку браць прыклад з Хрыста, а Ён сам ніколі не пагаджаўся з сацыяльнай несправядлівасцю. Усе Евангельскія апісанні жыцця Ісуса згодна падкрэсліваюць ягонае спачуванне для бедных, пакрыўджаных і прыніжаных. Ён вучыў: „Усякаму, хто просіць у цябе, дай" і Сам меў фонд дапамогі бедным. Ведаючы як ніхто натуру чалавека, Хрыстос асцерагаў перад злоўжываннем прывілеямі, уладай і багаццем. Разумеючы чалавечыя слабасці, схільнасці і самую структуру агульначалавечых суадносін, Ён ніколі не абяцаў раю на Зямлі, як гэта рабілі шматлікія „дабрачынцы" чалавецтва, уключна з Уладзімірам Ільічом. „Гора вам, багацеі, бо вы ўжо атрымалі сваю радасць", — гаварыў Ён багатым і з сумам канстатаваў немагчымасць устанаўлення нават прыблізнай роўнасці. „Убогіх заўсёды маеце ў сябе", — гаварыў, і сёння, пасля дваццаці стагоддзяў, назіраем, што бедных абсалютна не паменшала. Яны пераважна яшчэ больш бяднеюць, а багатыя яшчэ больш за кошт каго-небудзь нажываюцца.

Хрысціянства, абвінавачанае ў „згодніцтве, пасіўным супраціўленні або бунце на каленях" прынесла і ў значнай ступені ажыццявіла праграму сацыяльнай перабудовы свету. Не была гэта аднак праграма „перманентнай рэвалюцыі", да якой заклікаў Маркс, бо дзеля чаго пастаянны бунт і разбурэнне? Рэвалюцыя дзеля самой рэвалюцыі? Гэта ж чысты садызм. „Гвалтоўныя, на мяжы катаклізму, сацыяльныя змены, — пісаў гісторык Стэфан Мэллер, — заўсёды саслізгваюцца ў тэрор, выклікаюць трагедыі і захліствающца крывёю тых, каго мелі ашчасліваць".

Хрысціяне не пагаджаюцца з крывавымі, рэвалюцыйнымі зменамі. Сваю задачу яны разумеюць як паступовае ўздзеянне на працэсы сацыяльнай перабудовы ў духу гуманнасці і стрыманасці. У адпаведнасці з Евангеллем яны імкнуцца прадухіліць рэпрэсіі і жорсткасць, каб барацьба са злом не прывяла да яшчэ большага зла. Яны не выключаюць магчымасці бунту супраць тыраніі, аднак толькі тады, калі спрыяльныя ўмовы дазваляюць замяніць тыранію лепшым грамадскім ладам. Вернікі ніколі не пагодзяцца з Леніным, які лічыў, што „тэрор і Чэка абсалютна неабходны". Былі, што праўда, рэлігійныя войны, шматлікія скрыўленні, аднак хрысціяне з ідэалагічных меркаванняў не засноўвалі канцлагераў і не праводзілі масавых расстрэлаў іншадумцаў.

Паводле Святога Пісання Сам Бог з'яўляецца адзіным крытэрыем дабра і справядлівасці, заканадаўцам і суддзёю. Ён Сам, як чытаем у Евангеллі, „адбярэ ў моцных пасады, узвялічыць пакорных, галодных насыціць дабром і багатых адпусціць з нічым" (Лук., 1: 52). Розум і памяркоўнасць схілялі Хрыстовых вучняў да цярплівасці і пасіўнасці, калі не было надзеі паспяхова супрацівіцца злу, але калі з'яўлялася такая магчымасць, яны змагаліся.

Калі сяляне падчас Рэфармацыі ў Нямеччыне паўсталі супраць памешчыкаў, іхныя дамаганні асноўваліся перш за ўсё на Бібліі. У іхных гімнах гучэлі словы: „Калі Адам араў, а Ева прала — хто быў тады іх панам; наша магутная сіла — Гасподзь, яна непераможная". Энгельс слушна заўважыў, што Лютэр даў сялянству магутную зброю, перакладаючы Біблію.

Калі ў XIX стагоддзі ў Англіі ўзнік рух пралетарыяў, гэтак званых „чартыстаў", у адным са сваіх гімнаў яны спявалі: „Сыны Брытаніі, вы былі нявольнікамі; але ж Бог, наш Тварэц, стварыў вас свабоднымі; Ён даў усім жыццё і свабоду, нікога ніколі не зрабіўшы нявольнікам". Першымі арганізатарамі дэманстрацыяў, што папярэдзілі рэвалюцыю 1905 года ў Расеі, былі хрысціянскія рабочыя на чале са святаром Гапонам. Вось толькі некаторыя прыклады стаўлення хрысціян да праблемаў сацыяльнай справядлівасці і змагання за лепшую долю.

Вернікі, болей чым хто-небудзь, зацікаўлены ў зямным жыцці. Яны перш за ўсё разумеюць зямное жыццё як пасланніцтва стацца „соллю зямлі" і „святлом свету", каб супольнае, чалавечае пілігрымства на зямлі хаця часткова адабратварыць.

Некалі выдатны астраном Левер'е пасля 35 гадоў карпатлівай працы, у выніку якой вылічыў месцазнаходжанне Юпітэра і Сатурна, напісаў у сваім завяшчанні словы Святога Пісання: „Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Госпадзе, па слову Твайму — з мірам" (Лука, 2: 29).

Паколькі зямное жыццё з'яўляецца пасевам, пасля якога прыйдзе жніво, вернікі тым болей намагаюцца пражыць як мага найлепш, выканаць даручаныя ім заданні і заслужыць на ўзнагароду ў вечным жыцці. Дзеля гэтага яны, не занядбоўваючы сваіх зямных абавязкаў, імкнуцца ў нябесны рай, заклікаючы іншых далучыцца да іх, бо ў небе „Айцец наш", а дзе наш Айцец, там і Айчына.

*(працяг будзе)*

**а. Канстанцін Бандарук**

## Нямецкая магіла

Аж сорамна пісаць пра гэта, але трэба. Каля вёскі Рудуты (Арлянская гміна) побач скрыжавання дарог, адна з якіх вядзе ў вёску, а другая ў Орлю, знаходзіцца вялікая супольная магіла нямецкіх салдат з часоў I сусветнай вайны. Тут ішлі цяжкія баі і нямала загінула так немцаў, як і рускіх. Рускія сваіх хіба вывозілі далей, а немцы вось пахавалі сваіх салдат на месцы бою, у брацкай магіле, насыпалі капец зямлі і паставілі крыж. У міжваенны час людзі неяк інакш ставіліся да загінуўшых, нават немцаў, бо і яны людзі і не па сваёй волі ішлі на вайну — не чапалі магілы. Калі ўспыхнула II сусветная вайна ў 1939 годзе, да нас завіталі немцы. І вось адна нямецкая часць праходзіла дарогай, блізка якой знаходзілася магіла іх суайчыннікаў. Атрад затрымаўся і адзін малады салдат Вермахта стаў на калені і пачаў маліцца. Аказалася, што ў гэтай магіле пахаваны яго бацька. Як відома, у немцаў быў і ёсць вялікі парадак і гэты малады салдат з ваенных дакументаў даведаўся, у якой магіле пахаваны яго бацька.

Калі пры камуне пашыралі тут дарогі, дык і гэтую, пры магіле, пашырылі, а магілу зраўнялі з зямлёю. А цяпер нейкія людскія гіены перавярнулі магілу дагары нагамі. Чаго яны шукалі — скарбаў ці нейкай зброі? Навокал ямы валяюцца людскія косці і збуцвелыя рэшткі абутку. Нават пасля смерці, ад якой мінула ўжо 80 гадоў, не даюць загінуўшым спакою. Замест заапекавацца, над людскімі астанкамі насыпаць копчык зямлі, паставіць крыж і схіліць галаву над магілай, дзікуны гэтыя паказалі сваё варварства. Сорам гэта! У немцаў такога няма: у іх у пашане ўсе загінуўшыя: і свае, і рускія, і французы, і іншыя. А нам павінна быць вядома, што немцы з гэтай вайны, з таго самога строю, што і пахаваныя ў магіле салдаты, да нас, беларусаў, адносіліся як трэба. У школах вывучалася родная беларуская мова падчас іхняй акупацыі, бо не ўсе нашы людзі тады падаліся ў бежанства. Шануйма супакой усіх загінуўшых, бо кожная вайна гэта няшчасце. Якое мора слёз выліл маці за сваіх сыноў, якія пайшлі праліваць кроў пераважна не па сваёй волі. Шануйма іхнюю памяць, мы ж хрысціяне!

**Мікалай Панфілюк**




### Эх, доля, доля...

Зімнім вечарам халодным,
Па захадзе сонца,
Бег ён да любай дзяўчыны
Паглядзець у ваконца.
Ён не мог зайсці дахаты,
Бо дзяўчо з багатых.
Мог жа быць прагнаны
Праз ейнага тата.
Шыбіна іх раздзяляла
А сэрцы яднaлі;
Яны змалу кахаліся
І любяцца далей.
Ён не мог яе ўгледзець
Праз снежныя шкельцы,
Але водгук калаўротка
Цешыў яго сэрца.
Яна ведала, бядняга,
Што ён падглядае,
Бо пачала песню:
„Ой, пад гаем, гаем"...
Раптам сціхла і працерла
Ў шыбіне кругельца,
Каб ён бачыў яе слёзы,
Ды схаваў у сэрца.
Так было і так асталась —
Лёс намі кіруе:
Яна ўмерла — сэрца трэсла,
А ён ўсё гаруе.

**Васіль Петручук**

*21.IX.1994 г. (Прачыста)*

# 4-я нядзеля Вялікага Посту

*(Марк, 9: 17-31)*

Евангельскае чытанне чарговай, чацвёртай нядзелі Вялікага Посту зачэрпнута з 9 раздзела Евангелля паводле Марка. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом апантанага хлопца. Бацька няшчаснага юнака звяртаўся спярша з просьбай аб аздараўленні да апосталаў, аднак яны не здолелі гэтага зрабіць. „О, род няверны. Дакуль буду з вамі? Дакуль буду цярпець вас? Прывядзіце яго да мяне", — з дакорам сказаў Ісус. На словы зняверанага бацькі, які сказаў: „Калі можаш, памажы нам", Ісус адказаў: „Усё магчымае для таго, хто верыць". На вачах народу ён аздаравіў юнака, выгнаўшы з яго нячыстага духа. Пры гэтым ён даў зразумець вучням, што іхняя вера павінна быць узмоцнена праз малітвы, пост і падпарадкаванне сваіх сэрцаў дзеянню Божай сілы.

Узаемазалежнасць паміж верай і аздараўленнем з'яўляецца адным з лейтматываў Хрыстовага навучання. Шмат каму Ісус гаварыў: „Вера твая выратавала цябе". Сучасны чалавек скептычна ставіцца да такіх з'яў. Ён больш разлічвае на медыцыну, на лякарствы і навейшыя дасягненні тэхнікі. Тым не менш час некрытычнага захаплення нібыта неабмежаванымі магчымасцямі сучаснай медыцыны, здаецца, незваротна мінае. Хаця вучоныя не любяць слова „цуд", яны таксама пачынаюць прызнаваць, што гэтак званых „парапсіхалагічных з'яў" нельга ігнараваць.

У палове 60-х гадоў Еўропу абляцела вестка, што ў Бразіліі і ў Афрыцы нейкія чарадзеі робяць аперацыі без прыладаў. Чуткі пацвердзіў на месцы д-р Эндр'ю Пугарыш, выдатны знаўца парапсіхалогіі. Недзе ў 1971 годзе чарга прыйшла на Філіпіны. Пачалі надыходзіць адтуль інфармацыі, што робяць там складаныя аперацыі голымі рукамі, без скальпеля і рэнтгена. У спецыялістычнай прэсе ў Еўропе і ў Амерыцы паявілася мноства артыкулаў на гэтую тэму. Філіпінскія лекары не ўтойвалі таго, што рабілі. „Мы лечым, — сказаў адзін з іх, Вяргільё, — траяка. У фізічным сэнсе — праз магнетызм, дотыкам рук. У сферы псіхічнай, эмацыянальнай — здзяйсняем цуд. У духоўным сэнсе — праз веру і лучнасць з Богам. Можам таксама перадаць сваю волю і энергію на адлегласць".

„Нельга вылечыць чалавека, калі не ведаецца і не аздараўляецца ягонай душы, — сказаў іншы філіпінец, Робі Гуцьерэс. — Аздараўленне — вельмі складаны працэс і праходзіць рознымі шляхамі. Мы не робім цудаў; дапамагаем толькі тым, якія самі хочуць сабе дапамагчы. Усё, што бачым вакол сябе — гэта чыстая ілюзія; галоўнае адбываецца ў нашым розуме. Гэта матэрыялізацыя думкі. Бог стварыў свет дасканалым, аднак чалавек разбурае ягоны лад лічачы, што паглыбляе свае веды. Нашых аздараўленняў нельга вытлумачыць з дапамогай сучаснай навукі. Яны адбываюцца ў сферы вышэйшай свядомасці, дзе адбываецца ўсё".

Прадстаўнік традыцыйнай медыцыны, філіпінскі лекар Жаме Лікаўко, так тлумачыў непрыхільнай прэсе моц філіпінскіх чарадзеяў: „Надыходзіць час, калі традыцыйная медыцына звернецца да духоўных лекараў і яны разам будуць весці хворага да здароўя. Без веры пацыента не дзейнічаюць лякарствы. Гэта не яны лечаць хворага, а толькі псіхіка чалавека, які верыць у аздараўленне, дае загад свайму целу".

Філіпінскія знахары падкрэсліваюць, што кіруюцца ў сваёй працы любоўю да чалавека і жаданнем дапамагчы яму. Яны спасылаюцца на навуку Буды, які сказаў, што чалавек жыве на тое, каб служыць не толькі сабе, але і іншым. Што тычыцца вынікаў працы — да іх дараблялі розныя навуковыя тэорыі, але самыя аздараўленні гэта неаспрэчны факт.

У экзатычныя філіпінскія цуды можна верыць або не верыць, аднак хто апынуўся ў шпіталі, хто перажыў цяжкую хваробу, выйшаў з безнадзейнага становішча, той сам пераканаўся наколькі важны для здароўя цела здаровы дух, аптымізм і вера ў аздараўленне ці выратаванне.

Ведаючы пра гэтую залежнасць, падчас Вялікага Посту ўстаноўленага для духоўнага аздараўлення, Царква напамінае нам: „Калі будзеце мець веру як гарчычнае зерне, нічога не будзе немагчымага вам".

**а. Канстанцін Бандарук**

# Мая першая сустрэча з Віктарам Шведам

Віктар Швед святкаваў свае сямідзесятыя ўгодкі. Гэтай падзеі „Ніва" прысвяціла шмат месца. І так павінна быць! Да ўсяго напісанага аб творцы і самім творцам я хачу дабавіць кароценькі ўспамін аб маёй першай сустрэчы з вядомым беларускім паэтам.

Было гэта ў другой палове пяцідзесятых гадоў. Я тады быў вучнем першых класаў Пачатковай школы ў Белавежы. Аднойчы наша настаўніца сп. Шчамплінская, прыйшоўшы ў клас, сказала нам, што ўрока не будзе, затое мы пойдзем на сустрэчу з паэтамі. Вершы будуць чытаць Швед і Баршчэўскі. Я крыху не зразумеў, бо якраз мой сябра нешта загаварыў, і прозвішча Швед прыняў за нацыянальнасць. Ідучы ў залу, дзе мела адбыцца сустрэча, мяне распірала цікаўнасць, як гэта швед будзе гаварыць да нас — на польскай ці на шведскай мове? Маё здзіўленне дасягнула зеніту, калі з ягоных вуснаў паплылі радкі вершаў на чыстай беларускай мове. Толькі тады я зразумеў сваю памылку.

Не памятаю, якія вершы чытаў паэт падчас сустрэчы. Магчыма, што і славуты ўжо твор „Я — беларус!". У сваю чаргу запамятаўся мне верш Аляксандра Баршчэўскага, у якім паэт прыгожа прадставіў белавежскіх хлапцоў.

І яшчэ адно мне ўрэзалася ў памяць з гэтай сустрэчы. Пасля, як паэты канчалі чытаць паасобныя вершы, вядома, выпадала падзякаваць воплескамі. У тыя ж моманты асаблівую „актыўнасць" праяўляў адзін са школьнікаў — выхаванак мясцовага дзетдома. Ён прыгражаў, што кожны, хто будзе апладзіраваць „кацапам", дастане потым „у рыла". Вядома, усіх не здолеў напалохаць і воплескі кожны раз усё-такі плылі. Хлапец той, праўда, пасля заканчэння сустрэчы кідаўся з кулакамі да непаслухмяных яму, але настаўнікі хутка астудзілі „патрыёта". Памятаю, што ў ліку „рэпрэсіраваных" знайшоўся і я. З перспектывы гадоў задумоўваюся не раз, як гэта дзеецца, што нянавісць да іншых нацыянальнасцей можна праяўляць ужо амаль ад пялёнак. Няўжо высмоктваецца гэтае з малаком маці? Бо насколькі ж мог разбірацца ў нацыянальных справах той васьмі- ці дзевяцігадовы сікун? Якія ён мог мець у той час асабістыя, прыкрыя жыццёвыя дасведчанні?

Памятаю яшчэ, што на сустрэчы з нашымі паэтамі выступаў нейкі (прозвішча яго не запамятаў) скрыпач, які выпраўляў са скрыпкамі неверагодныя рэчы. Мы былі перакананы, што гэтыя скрыпкі ён пазычыў у нашага настаўніка спеваў сп. Рыхтара і баяліся, што іх паломіць. Аднак жа не паламаў!

Вось, так мне запомнілася мая першая сустрэча з Віктарам Шведам. І першае мае спазнанне нацыянальнай нецалерантнасці. Цікава, ці паэт помніць гэтае сваё знаходжанне ў Белавежы?

Так выйшла, што мая наступная сустрэча з Віктарам Шведам адбылася шмат гадоў пазней, менавіта на адным са з'ездаў карэспандэнтаў „Нівы". Паэту нават прыйшлося палемізаваць з маёй прапановай, каб апошнюю старонку нашага тыднёвіка поўнасцю прызначыць для твораў нашых літаратараў.

Шаноўнаму Юбіляру зычу дажыць прынамсі да 100 гадоў і напісаць шмат яшчэ вершаў!

**Пётр Байко**

# Радзіма — Родзіна

### Частка IV

Сёння змяшчаю прадаўжэнне выказвання Піліпа Карэткі аб разгоне першага агульнабеларускага з'езду ў Мінску і яго разважанні аб радзіме.

„Ты знаеш, брацішку, калі ўжо той з'езд разагналі поўнасцю, то нас яшчэ трохі трымалі каля гэтага цеатра, бо баяліся, што яшчэ дзелегаты могут вярнуцца. Але после то ужэ нас адвелі ў казармы. То ты знаеш, я пару начэй ні спаў, усё думаў, як гэто ест з гэтаю Беларусёю і да чаго яна дойдзе. Але яшчэ табе скажу, што нашага ефрэйтара пасадзілі ў кутузку і трымалі можэ дзён дзесяць. После гэтаго то ён вярнуўся і ўсё цішком гаварыў, што ўжэ напісаў да Леніна, і што „як толькі Ленін дастане пісьмо то разгоніт мінскую сволач, катора разагнала з'езд". Але відно нічорта яму Ленін ні адпісаў. Зрэштаю можэ прашло пару месяцоў і немцы пашлі у наступленне і вытурылі нас з Мінска. Мы адышлі аж пад Оршу. А после то немцы адышлі, бо ў іх, здаецца, таксама ўспыхнула рэвалюцыя. Ну то тады, брацішку, у Беларусь палякі ўварваліся і нават Мінск забралі. Ну а потым то Троцкі папер Пілсудскага аж пад Варшаву, а потым то Пілсудскі запер Леніна пад Мінск. Аж у Рызе заключылі мірны дагавор і пазволілі нам, бежанцам, вярнуцца дахаты. От я ў 1922 року і прыехаў у сваю вёску. Але, знаеш брацішку, калі немцы занялі Мінск, то я быў пад Оршаю. То тады дзесь так вясною ў 1918 року, гаварыў нам ефрэйтар, — паўстало ў Мінску беларуске незалежнэ правіцельство, але здаецца яго ніхто ні прызнаў; ні немцы, ні бальшавікі, ні палякі. Але пра гэту штуку то я табе ужэ нічого дакладно ні скажу, бо ні быў пры гэтым. Толькі гэты ефрэйтар то яшчэ нам гаварыў, што калі ў Рызе спаткаліса Ленін і Пілсудскі, то да іх хацеў прыехаці, значыцца, прэзідэнт чы які там важны чорт з беларускаго правіцельства, але палякі і рускі яго нават і на парог ні пусцілі. Яны сказалі, што мы самі разбярэмся ў беларускіх дзелах і зробім так, каб беларусам было добрэ. А вядомо, брацішку, як чужы будзе дбаці пра твае інцерэсы. От яны і падумалі так, што беларускую зямлю падзялілі паміж сабою і канец на гэтым. Колькі хто мог толькі сабе і адарваў нашае зямлі. Так было вечно, так ест і сегодне.

Мне то павезло, брацішку. Ты знаеш, што за цэлы гэты час нават дня ні быў на фронці. Ні ваяваў ані з немцамі, ані з палякамі, ані нават з бальшавікамі. Пра бальшавікоў гавару от хоцьбы і таму, што сіхібо ў 1920 року успыхнуло беларуске паўстане процію бальшавікоў у Слуцку. То знаеш, наш ефрэйтар уцёк з нашаго палка і папер у Слуцк. А што было з ім далей, то гэто, брацішку, як у сказцы. Калі я ў санацыйнай Польшчы гандляваў, то я яго спаткаў і ён мне ў Пружанах цэлу ноч расказваў аб сваім жыцеві, але аб гэтым то я табе калісьці другі раз раскажу.

То мне, брацішку, здаецца так, што ані рускіе, ані палякі нам поўнае свабоды ні дадут. Яны заўшэ Беларусь будут сабе з рук вырываці, таргавацца і за яе біцца. А чаму ім так гэта Беларусь патрэбна? Ну, бо бачыш, брацішку, у нас много лясоў, мы народ працавіты, добры рабацягі. Значыцца, паслушны мы, ні бунтуемся. То значыцца, такі народ вельмі падхадзяшчы на нявольніцкаў. Мы ж ні толькі ў чужой старане, але і на сваёй ні ўмеем чужому нахалу даць у зубы. От таму і ўсе лезут да нас. З намі, бачыш, хто што хочэ, тое і робіт. Мы для ўсіх добры, толькі для сябе кепскі. Ну, то ты мне скажы, брацішку, як такі народ як беларусы даб'ецца свабоды. Нічарта ні даб'ецца. Але ўсё ж такі табе скажу, што ў час рэвалюцыі акцябрскае то і тысячы такіх як я беларускіх бедалагоў дазналіса першы раз, што яны належат ні да рускаго чы польскаго, а толькі да беларускаго народу. Толькі што бачыш з гэтаго нічого ні вышло, нічым мы ні былі і нічым засталісе.

Ты ж, брацішку, часто ездзіш у Мінск. Чы ты ні мог бы там прабіцца да гэтаго Ландзера і Мяснікова, каторы тады акцябрскую рэвалюцыю рабілі? Калі б прабіўся, а яны напэўно цяпер вялікі начальнікі, то прыпомні ім салдата Піліпа Карэтку, можэ якую сціпендзію або эмэрытуру далі б. Гэто ж для іх мелач, а тут чалавекаві прыдалося б".

**Алесь Барскі**

## З народных песень

*Прапануем чарговыя тры песні, дасланыя Браніславам Кавэцкім з Катавіцаў.*

* * *

На апушке леса стары дуб стаіць,
А пад тым, пад дубам партызан ляжыць.
Ён ляжыць, не слышыць, ён як-будта спіць,
Залатыя кудры вецер шавяліць.
А над ім старушка, маць яго стаіць,
Слёзы праліваіць, сыну гаварыць:

— Калі ты радзіўся, бацька ў войску быў,
Дзесці пад Адэсай галаву злажыў.
Я ўдавой асталась, семера дзяцей,
Ты быў самы младшы, мілы мой Андрэй.
Горка мая доля, дарагі сынок,
Хто ж мяне закопіць пры табе ў пясок.



* * *

Дванаццаць часоў ночы, пара ісці дамой,
А што я буду атвячаць маменьцы раднoй.
Прыйшла яна дадому і стукае ў вакно,
Мамаша ёй гаворыць: — Не сплю я ўжо даўно.
Ах Доня, мая Доня, а дзе ж ты была?
Чаму каса распушчана, заплаканы глаза?
— Ах маменька радная, ўсю праўду раскажу,
Я з міленькім прашчалася ў зялёненькім саду.

— Ах мілы мой, ты мілы, вазьмі мяне з сабой,
на дальняй на старонушке назвеш мяне сястрой.
— О Доня дарагая, нікак, нікак нельзя,
На дальняй на старонушке ёсць у мяне сястра.
— Ах мілы мой, ты мілы, вазьмі мяне з сабой,
На дальняй на старонушке назвеш мяне жаной.
— Ах Доня дарагая, узяць цябе нельзя
На дальней на старонушке ёсць дзеці і жана.



* * *

На гары вярба, пад вярбой вада,
Там хадзіла, там гуляла дзеўка малада.
Дзеўка ад вады, казак да вады,
— Пастой, пастой дзяўчыначка, дай каню вады.
— Нада пастаяць, каню вады даць,

Мае босенькія ножкі, холадна стаяць.
— Анучкі адвярну, ножкі увярчу,
Як паеду да даміку, боцікі куплю.
— Не купляй ты мне, купі ты сабе,
У мяне ёсць татка з мамкай, яны купяць мне.



# Адкуль пляма на сцяне Хмялеўскага

Праца журналіста — адна з найбольш небяспечных прафесій, параўнальная хоць бы з працай шахцёра ці шафёра аўтагонак. Пагражае яму хуткая смерць з рук ворагаў праўды ці выпадковай кулі, але, больш за ўсё, менш ці больш хуткая гібель ад інсульту, інфаркту, артэрыясклерозу, рэўматызму, нікатынізму, алкагалізму, неўрозаў сэрца ці страўніка, запалення пячонкі, вачэй, разнавіднага рака і бяссонніцы. Сярэдняя працяглясць жыцця сярэдняга міравога журналіста — аж пяцьдзесят чатыры гады. Найбліжэйшы нам ніўскі прыклад вядомага журналіста Віктара Рудчыка, няўрымслівага рэпарцёра, якому ніколі не хапала часу ні на сон, ні нават на спакойную хвіліну ў крэсле, якога праца даганяла нават дома. Не слухаў ён падшэптаў свайго зморанага сэрца пра небяспеку. Ніколі і не думаў пра хваробу, тым больш смерць. Інтэнсіўна заняты працай, бескампрамісны перш за ўсё да сябе, бываў нават непрыемны ў адносінах да супрацоўнікаў, у якіх былі свае справы, відавочна, менш істотныя. Ведала яго Беласточчына перш за ўсё з доўгіх, але цікавых тэкстаў, шмат людзей ведалі яго ў твар. Але ў ніўскай анкеце на пытанне, каго з журналістаў чытачы ведаюць асабіста, амаль усе апытаныя адказалі: Міхася Хмялеўскага. Па моцы і смаку пяра быў ён зусім іншым журналістам, чым спадар Рудчык, і матэрыялы збіраў іначай, і менш кранілі людзей ягоныя тэксты. Але чытачы любілі яго асабіста — за гумар, непасрэднасць, кампанейскасць. Калі „Ніва" была яшчэ на сваім старым месцы, і пісьменны стол Міхася Хмялеўскага, спрытна ўсталены зараз за дзвярыма пакоя нумар 22, стаяў там жа, хаця Міхась быў ужо пенсіянерам, то і пасля рамонту памяшканняў, нават пасля дакладнага памалявання сценаў, застаўся след яго прысутнасці, а больш не яго, а ягоных наведвальнікаў. Вось, за спінкай крэсла, што стаяла бокам насупраць Міхасёвага стала, на сцяне застаўся след плямы. Была яна адбіткам ад шапак і галоў наведвальнікаў Міхася Хмялеўскага — чытачоў, знаёмых, яго кліентаў як перакладчыка. Бо ва ўсіх вёсках Гайнаўшчыны, Бельшчыны, Сакольшчыны, Дубровшчыны мае Хмялеўскі знаёмых (праўда, іх усё менш і менш...). Вядома, здаралася дзе-нідзе і застолле, але я Хмялеўскага п'яным ніколі не бачыў, хаця кантактаваўся з ім вельмі часта, бывала што і штодзённа. І вось, бачыце, Міхасю Хмялеўскаму ў гэтым годзе стукне семдзесят гадоў! Вядома, і ягонае сэрца падводзіла (ён жа чалавек *сардэчны*), і то не раз, але ніхто не скажа, што Міхась кепска выглядае.

Але скажу вам пацiху: што там моцнае здароўе, добры настрой і гумар! Галоўнае — **добрая жонка**! Вось яно што! Калі б не пані Галя, і Міхась не быў бы такі Хмялеўскі! Абое трымаюцца, як дзве румяныя ружы ў жывым букеце. І што цікавае, звязаў Міхась сваёй цёплай рукой будзе недзе за дваццаць пар, і жывуць яны амаль усе (апроч, здаецца, аднаго сужонства) дай вам Божа, як добра. А пра кепскае ці непатрэбнае трэба нам усім забываць, бо жывецца тады лягчэй вам і іншым.

Хто Хмялеўскага не ведае, няхай возьме новы „Беларускі каляндар" і пра некаторыя факты з яго жыцця прачытае, бо мне трэба ўжо тэкст канчаць. І пажадайма яму ўсе, каб кампанію заўсёды меў класную, і каб яго знаёмыя і незнаёмыя з нашых вёсак жылі як найдаўжэй і яго ўспаміналі ды „Ніву" чыталі!

**Вандал Арлянскі**

## ПАРНАСік
Чытальніцкая літсупполка на негарантаваных паях

### Прырода — наша жыццё

Прырода! Яе шануем
Амаль па-зладзейску.
Знішчэнне плануем
Дзіка і па-зверску.
Рэжам лясы
Хутка, механічна.
А ім трэба расці
Без дымаў хімічных.
Сякуць дубы векавыя,
Вязуць за граніцу.
Ім гэта раны жывыя;
Не нам ісці ў бальніцу.
Ці знойдзем лякарства
Ад дзікай хціваслі
І марнатраўства?
Няма лясам літасці...
Пушчу абкрадаюць
На ўсе лады,
На грошы мяняюць —
Не мінаваць нам бяды.
Развозяць цэннае
Па шырокім свеце.
Пакідаюць дрэннае
Голле і смецце.
У лясы вывозім
Рознае падло,
Шкоду там наносім
А патомству — зло.
Звярыну і птушкі
Пазбавім прыстанішча.
Камарам і мушкам
Усё кругом заваліцца.
А прырода зможа
І без нас абысціся;
Мы без яе не можам
Сцежкі пралажыць.
Хіба не будзем
У пустыні бадзяцца
Бо загінем, заблудзім,
Усе планы праваліцца.
У цемры апынемся
Як рудая мыш.
Калі не прачнемся —
Каюк нам і шыш.

**Мікалай Панфілюк**

### Заглянуць мухалоўцы пад хвост

Белавежская пушча — гэта абшар, дзе вядуцца шматлікія навуковыя даследаванні. Тут таксама ахвотна выконваюць свае дыпломныя працы студэнты вышэйшых школ з усяе Польшчы. Узровень і тэматычны дыяпазон гэтых прац даволі розны. Здараецца і так, што некаторыя проста выклікаюць смех, ды не толькі ў звычайнага чалавека.

Вось у апошніх гадах трох студэнтаў з Сельскагаспадарчай школы ў Седльцах займаліся, кожны паасобку, „мужчынска-жаночымі" справамі ў птушак мухаловак. Адзін даследаваў, як бадзёрасць самца маецца да яго вывадковага поспеху, другі разглядаў той жа поспех з пункту яго ўзросту, трэці ў сваю чаргу займаўся роляй інтэнсіўнасці спеву ў палавым адборы. У падсумаванні ўся тройка прыйшла да вываду, што ўсё, што разглядалі, не прадстаўляе большага значэння.

Але дыпломныя працы ўсё-такі абаранілі!

**П. Байко**

## Карысныя парады Янкі Целушэцкага

### Красавік у гаспадарцы

Рыхтаваць глебу да сяўбы. Дзеля ўтрымання вільгаці баранаваць і культываваць. Калі толькі зямля падсохне і нагрэецца, сеяць яравыя культуры. Сеяць трэба сеўнікам — гэта гарантуе большы ўраджай і ашчаднасць насення. Угнойваць сенажаці і пашы. Баранаваць азіміну, перш за ўсё пшаніцу і канюшыну. Вазіць гной пад бульбу. Садзіць раннюю бульбу. У агародзе сеяць буракі, садзіць цыбулю. У садзе садзіць саджанцы фруктовых дрэў, кусты парэчак і агрэсту. Зашчапіць маладыя дрэўцы.

Працягваць вясенні дагляд пасекі. Падкормліваць слабыя раі. Утрымліваць чысціню ў хлявах. Рамантаваць дарогі.

## Браканьерства на экспарт

Я вельмі люблю прыроду — звяроў і птушак, якія мяне не крыўдзяць, а любяць. Цяпер хачу крыху напісаць пра снегіра, рэдкую птушку, якая знаходзіцца пад аховай. Нядаўна ў Франкфурце-на-Одры нямецкі мытнік выкрыў у кантрабандзе на Захад 20 снегіроў. Я ў Відаве падкормліваў усю звярыну, у тым ліку і снегіроў, якія крыху большыя ад вераб'ёў. Самка выглядае скромна, затое самец падобны на опернага артыста, які выбіраецца на баль: „апрануты" ў светла-чырвоную камізэльку, чорны фрак і чорны цыліндр на галаве. Найбольшым прысмакам снегіроў з'яўляюцца ягады рабіны і каліны: не ганьбуюць яны і травамі. Да нас на зіму прылятаюць з Расеі і Скандынавіі, куды вяртаюцца на прадвесні. Снегіры, як і іншыя ўюрковыя, м. ін. шчыглы, чачоткі і дубаносы, знаходзяцца пад аховай. Характарызуюцца яны вялікім багаццем апярэння і ўжо здаўна цікавяцца імі гандляры. Памешчаныя ў аздобныя клеткі, упрыгожвалі магнацкія палацы і замкі, а таксама былі тэмай паэтычных твораў і казак. У Польшчы, як і ў іншых дзяржавах, можна трымаць у клетцы пеўчую ці аздобную птушку. Гандаль звярынай, у тым ліку і птушкамі, якія знаходзяцца пад аховай, забаронены. Аднак лоўля і кантрабанда птушкамі аплачваюцца. Браканьеру пагражае кара да 5 млн. старых злотаў і да 3-х гадоў зняволення, аднак кар гэтых не прымяняецца з увагі на іх невялікую грамадскую шкоднасць. Трэба аднак ведаць пра тое, што птушка ў клетцы хварэе і хутка гіне ў чужым для яго штучным асяроддзі.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, прысніўся мне дзіўны сон. Прачнуўся я раніцай і думаю, што ён мне прадвяшчае — добрае, ці кепскае?.. Схапіў я лісток паперы, ручку і адразу на свежа, пакуль памятаю, каб дзе чаго не забыцца, пішу ўсё па парадку. Вышлю неадкладна ў „Ніву" табе, Астронку. Ты ж ужо не адзін сон мне разгадаў, ды вельмі трапна. Сніцца, што еду я праз вёску — гэта непадалёк маёй роднай вёскі. На чым ехаў, не памятаю. Ужо знаходжуся пасярэдзіне вёскі, побач царквы. Але што дзіўнае: у сне не адна царква, а комплекс цэркваў. Ну, выгляд іх такі прыгожы, такі багаты. Купалы блішчучыя — у золаце. Перадаць на паперу не змагу я табе тае прыгажосці, бо ў сапраўднасці дык і быць так не можа. Я захапляюся гэтай прыгажосцю, а тут нейкі юнак у блакітнай кашулі падыходзіць да мяне і хоча забраць маю вайсковую кашулю, якую я маю на сабе. Я баранюся. Бачу, бацюшка бяжыць мне на дапамогу. Але гэты юнак кінуўся да яго. Бацюшка пачаў уцякаць, а юнак пагнаўся за ім. І ўсё. Чакаю, Астроне, адказу як найхутчэй.

**Сцяпан**

Сцяпан, твой сон, хаця ён і даволі прыгожы, прадвяшчае сум і расчараванне. Аб гэтым перш за ўсё гавораць гэтыя цэрквы, хаця і з залатымі купаламі. Найгоршы аднак той гвалт, што ўчыніў юнак, якога ты сустрэў на сваёй дарозе. Спачатку ён хацеў садраць з цябе тваю вайсковую кашулю, а пасля пагнаўся за бацюшкам, які хацеў цябе ратаваць. Усё гэта абазначае, што ты можаш нешта страціць або захварэць. Адным словам, смутку не пазбегнеш. Вельмі мне прыкра пісаць гэтыя словы, а за прызнанне дзякую.

**АСТРОН**

## Адгалоскі

### Мазня пана Панфілюка

У „Ніве" н-р 9 ад 26 лютага г.г. Мікалай Панфілюк піша, што ў „Салідарнасці" цяпер служаць былыя камуністы і заядлыя клерыкалы... І вось у гэтым выяўляецца характэрная рыса канфліктнага чалавека. Падобным спосабам Коля выкупаў у памыях і балотам абштукатурыў не адзін дзесятак людзей, часта ў нічым не вінаватых, сумленных, добразычлівых; без перабору. Не было б у тым нічога асаблівага, калі б ён да сваіх асабістых разлікаў не ангажаваў беларускі штотыднёвік „Ніву". Думаю, што яшчэ „Ніва" не з'яўляецца ўласнасцю Колі Панфілюка і такія ці падобныя канфлікты ён павінен завяршаць на месцы, у Дубічах-Царкоўных.

З публікацыі таксама вынікае, што Коля не апошнюю функцыю займае ў дубіцкай „Салідарнасці". То ён выдае апініі, калі нехта захоча падацца на добрую пасаду, пра якую зараз можна толькі памарыць (за што і дзякуй не скажуць, — скардзіцца Коля). А калі б такі асобень прыбыў на сход „Салідарнасці" ў Дубічы-Царкоўныя з паловай цяляці ці прывёз некалькі дзесяткаў зялёненькіх, публікацыя ў газеце не паявілася б. На канец хачу запытацца ў Панфілюка, якія крытэрыі характару павінен захаваць чалавек, каб камуністам звацца? Калі ласка, не адмаўляй, Коля!

**Валянцін Семянюк**

## Красавік у прыказках і прымаўках

Красавік з вадою — май з травою.
Благавешчанне без ластавак — халодная вясна.
У красавіку грымот — ураджайны будзе год.
Гнаёк ды лубінок — хлеба і на другі гадок.
Красавік ваду падбірае, красачкі пушчае.
Жаваранак прылятае на праталіну, шпак — на прагаліну,
журавель — з цяплом, а ластаўка — з лістом.

*Падборку зрабіў*
**Янка Целушэцкі**

## КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна:** 3. хімічны элемент н-р 24, 8. недамаганне, хвароба, 9. мінерал, з якога вырабляецца суперфасфат, 10. галоўны кампанент паветра, 11. замёрзлая гразь, 13. абмалочанае зерне, 15. штат Клінтана, 16. інструмент для стругання, 20. жыхарка Каўказа, 22. глеба, насычаная солямі, 23. індыйскі князь, 27. горад між Беластокам і Сувалкамі, 29. сталіца Калмыкіі, 30. расліна з цвёрдым сцвалом, 31. калючая зброя на вінтоўцы, 32. навучанне, адукацыя, 33. работа, 34. кіслы напітак.

**Вертыкальна:** 1. зеленаваты мінерал, 2. лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіцы ў 1962 г., 4. рашэнне загадкі, 5. вузкая палоска тканіны, 6. імя Шаўчэнкі, 7. мужчынскае імя, 12. міфічны грэчаскі герой, які наведаў Калхіду, 14. баль у масках, 16. прэзідэнтам гэтай дзяржавы быў толькі Гарбачоў, 17. вобраз, які ўвасабляецца акцёрам, 18. стары мужчына, 19. старая жанчына, 21. раздзел фізікі, які вывучае гукавыя з'явы, 24. слаўны крэйсер, 25. вадкая празрыстая смала, 26. яркае святло, 27. горад на поўначы Беларусі, 28. апісаў прыгоды добрага ваяка Швейка.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 7 н-ра:**

**Гарызантальна:** канапа, Кракаў, папрок, рэпа, Кіра, стэнаграма, явар, нота, седала, камора, мастак.

**Вертыкальна:** кабарэ, папа, крок, Аўрора, прапаганда, пастар, кімано, яванка, тартак, сера, лама.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Галене Тапалянскай** з Трасцянкі і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.


**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Пароды

Як зоры на паляне,
Рассыпаны суніцы.
Сабрала іх у збане
Дзяўчына-чараўніца.
А хлопец топаў следам
Ї захацеў вадзіцы,
Як быццам бы не ведаў,
Што ў збане тым суніцы.

**(Віктар Швед, Суніцы)**

Дзяўчына на паляне
Збірала ў збан суніцы,
А хлопец кучаравы
Хацеў вады напіцца.
Ї топаў яе следам
З надзеяй на вадзіцу —
Не знаў ён і не ведаў
Што ў збане тым суніцы.
Убачыла дзяўчына
Пагоню за сабою
Ї хуценька ў маліны
Панеслася стралою.
Спадніца трапятала
Як матылёк вясною,
А кофтачка мільгала
Як рыбка пад вадою.
Дзяўчына бегла жвава
Ажно мільгалі пяткі
Ї хлопец за той з'явай
Рвануўся без аглядкі.
Бяжыць, бяжыць, падскочыць,
Упадзе, спатыкнецца,
Дагнаць дзяўчыну хоча —
Вось злапае, здаецца.
Ї вельмі ж ён стараўся —
За дзеўкай гнаўся ўпарта,
Аж раптам трэск раздаўся
Быццам выбух гранаты.
Спыніўся хлопец, глянуў,
Што тут магло здарыцца,
Ї ўбачыў неспадзяна
Што трэслі нагавіцы.
Што гэта не граната
Так трэску нарабіла,
А што штаны выдатна
Парваў нейкі асілак.
Ї твар яго пабачыў
З адным-адненькім вокам,
Ї страшна яму стала,
Быццам сустрэў цыклопа.
А той сілач заплакаў
Ї не сказаў ні слова,
Як быццам небарака
Ад роду быў нямовай.
А потым пахіліўся,
Нікуды не ўглядаўся,
Паволі пакланіўся
Ї ціхенька схаваўся.

**Адам Маньяк**






**Мал. А. Папова**

## Смех у санаторыі

— Якая розніца між панам і лакеем?
— Кураць тыя самыя папяросы, п'юць тое самае віно, толькі адзін з іх за гэта плаціць.

* * *

— Чаму пасылаеце сынка на ўрокі музыкі? Ён за грош слыху не мае.
— Яму не слухаць музыку, яму — іграць!

* * *

— Скажы, сябра, што парабляеш, — пытае адзін літаратар другога.
— Шпацырую па сваім кабінеце і чакаю аж нейкая думка засвітае ў галаве.
— Ї якая думка найчасцей прыходзіць?
— Каб сесці і адпачыць.

* * *

— Якая розніца паміж польскім і рускім рэстаранамі?
— У польскім рэстаране відаць людзей, якія ядуць і чуваць тых, якія гавораць. У рускім рэстаране відаць тых, якія гавораць і чуваць тых, якія ядуць.

* * *

— Маем рашуча найгоршую працу ва ўсім бюро, — гаворыць машыністка сваёй сяброўцы.
— Чаму?
— Бо калі не працуем, усе гэта чуюць.

* * *

Пасля трыццацігадовай разлукі сустракаюцца школьныя сябры:
— Як жывеш старыкан? Ці надалей такі закаханы ў сваёй жонцы?
— Так як і першага дня.
— Дык хіба не скажаш, што кожны дзень становішся перад ёю на калені і прысягаеш любоў!?
— Надалей кленчу, толькі цяпер мушу яе прасіць, каб памагла ўстаць.

* * *

— Я нявінны, Высокі Суд! — выкрыквае абвінавачаны.
— Усе так гавораць, — заўважае суддзя.
— Калі так, дык гэта мусіць быць праўда!

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Наша мама засталася без мужа, калі мы з малодшым братам хадзілі яшчэ ў школу. Бацька памёр неспадзявана, упаў, як сноп і... канец. Ніколі не хварэў, быў моцны, як асілак. Проста ніхто не хацеў верыць, калі мы паведамлялі сваякоў і знаёмых, што бацька не жыве. Сёння я ведаю, як гэта здараецца. Каб памерці ад інфаркту, ці, як кажуць, завалу, не абавязкова мець хворае сэрца.

Мама, спачатку паўжывая, неяк сабралася з сіламі і спрабавала жыць, як усе людзі. Працу мела някепскую, дык грошай нам не бракавала. Мужчыны яе не цікавілі. Была на працягу многіх гадоў верная нашаму бацьку-нябожчыку, аддаючы ўсю сваю энергію нам, дзецям. Дбала не толькі аб тым, каб мы былі сытыя і не босыя, але і пра наша выхаванне, добрыя манеры, адукацыю.

Ї я, і брат закончылі вышэйшыя школы, маем добрыя прафесіі. Я нават выйшла замуж, а мама надалей жыла толькі для нас і нашымі справамі. Бацька доўгі час працаваў заграніцай. Зарабіў на прыгожы дом і пакінуў яшчэ тое-сёе ў банку. Мама бяды не знала, і я, як толькі выйшла замуж, выбралася ў новую кватэру, якую якраз атрымаў мой муж. Брат, праўда, працаваў у Варшаве, але я была побач з мамай. Яна надалей працавала, узяла кватарантаў, каб не быць адной. Праз год пасля выхаду замуж я сцвердзіла, што зацяжарыла. Божа, як мы з мужам уцешыліся. Я не хвалявалася, што будзе цяжка, што будуць нейкія клопаты з працай. Мама якраз збіралася на пенсію. Будзе і ёй занятак — вырашылі мы з мужам. Годзе ёй гэтага адзіноцтва!

Пакуль што, аднак, вырашылі маме нічога не гаварыць. Што тут гаварыць загадзя! Прынамсі скажам, калі ўжо будзе відаць. Во дзе будзе неспадзеўка!

Не думалі мы, што і мама ў той час рыхтавала нам неспадзеўку. Таілася перад намі, бо проста саромелася. Жанчына, якая ўсе апошнія гады жыла для дзяцей, вырашыла... выйсці замуж!

Было так, што я ўжо не ведала, ці плакаць, ці смяяцца. Ну, кажу табе, трагікамічная сітуацыя! Я кажу радасна: „Мама, я буду мець дзіця!" Думала, што мама мне ад радасці кінецца на шыю. А яна? Быццам ведала, на што я разлічваю, нават слова парадкам вымавіць не змагла: „Але я, я... выходжу замуж!"

Я, як стаяла, так ледзь не павалілася на падлогу ад уражання. Жывот адразу выперла ў мяне наверх, і мама нават не мела шанцаў, каб засумнявацца. Я ж была ўжо ў шостым месяцы. Жартаў не было.

Я спадзявалася, у сваю чаргу, што мама схамянецца, скажа, што пажартавала — я ж бы не дапусціла пакуль што да цяжарнасці, калі б не была ўпэўнена, што выхаваннем дзіцяці зоймецца мама. Наша дзіця ўнесла б радасць не толькі ў наша жыццё, але і ў яе. Але яна сказала, што ўсё ўжо пастаноўлена.

Неўзабаве адбыўся мамін шлюб. Мы былі гасцямі на вясельным прыёме. Я да сёння не магу супакоіцца, навошта маме гэта на старыя гады? Няўжо шчасце дзяцей перастала быць для яе галоўным? Ці яе муж згодзіцца, каб яна надалей дапамагала нам?.. Ды і наогул, ці ў пяцьдзесят ужо нешта бабе трэба? Гэта ж сорам крыху і перад людзьмі! Ды і што будзе з домам? Можа ён на дом зырыцца? А ты як думаеш, Сэрцайка?

**Данка**

Данка! Чаму ты лічыш, што прывілей кахання маюць толькі маладыя, а „бабе ў пяцьдзесят ужо нічога не трэба"? Ці падумала ты, што на працягу стольких гадоў яна жыла без мужчыны, але сэрца яе, відаць, не высахла. Маці жыла вашым жыццём, бо так было трэба. Вы былі малыя і безабаронныя. Цяпер вы ўжо самастойныя, маці дала вам усё, што магла і што было неабходнае. Ї мо захацелася і ёй пачуцца ізноў жанчынай, а не толькі маці ці бабуляй. Можа мела досыць быцця прадметам, без якога немагчыма нечае жыццё. Можа і ёй стала адзінока і сумна, калі ўжо засталася адна, захацелася прытуліцца да некага, хто б жыў толькі для яе. А мо проста гэта прыйшло каханне?..

Што датычыць дома, дык заўсёды яго можна падзяліць між дзецьмі, не мусіць яго зараз аддаваць мужу. Ды калі акажацца гэта добры чалавек, дык і пры дзіцяці яны вам дапамогуць.

Найважнейшае, што ў сэрцы мамы паселіцца радасць. Тады будзеце цешыцца і вы, дзеці.

**СЭРЦАЙКА**

# КАЗА

*(філіпіка)*

Філіпікаў хлеў ведалі ў цэлай гміне, а мо яшчэ і крыху далей. Нездарма Філіпіха галасіла ўсім і кожнаму пасобна:

— У майго, што малое, тое малое. Але хлеў у яго то о-го-го!

Ї была гэта шчырая праўда.

Філіпікаў свінятнік вырастаў вокамгненна. Вядома, гаспадар вярнуўся з-за вялікай калюжыны, ды не з пустымі рукамі.

Гісторыя пабудовы Філіпікавага хлява, вядома, куды менш цікавая за гісторыю заснавання ўсіх вёсак і гарадоў між Нарваю і Бугам, але ўсё-такі гэта ж гісторыя. Ї ведаць яе трэба.

**15 мая.** Прыязджаюць хлопцы з Гарадка. Хлопцы маладыя і, — усе праваслаўныя палякі — вясёлыя. Мацней пацягнуўшы носам даецца яшчэ выявіць і прычыну гэтай весялосці: непаўторны водар спелага жыта ў тамашніх лясах.

— Касіў Ясь канюшыну, — грымнула па-над панадворкам і хлопцы пачалі заліваць фундаменты.

**1 чэрвеня.** Хлопцы з-за Буга пачынаюць мураваць сцены.

**25 чэрвеня.** Майстры замацоўваюць вяху ды ідуць на *вянковае.*

**25 чэрвеня, гадзіна 23.58.** У другім канцы вёскі стары Макар абарочваецца на другі бок. Ён не можа заснуць, бо нехта на поўныя грудзі спявае „Была мэнэ маті бэрэзовым прутом".

**26 чэрвеня.** Сталяры з Гайнаўкі абсталёўваюць дзверы і вокны. Гэтыя аднак не спяваюць і не п'юць (з-за стану здароўя: у першага хворае сэрца, у другога — злая жонка). Гавораць таксама мала, але калі адзін ці другі замест у цвік ляпне малатком у лапу, тады адзываецца коратка і ясна: *Блядзь!*

Турыст, які сядзіць пад грушаю і шчыра запісвае ўсе гэтыя фальклорныя слоўцы, пытае: — Панове, хто вы?

— Беларусы, — адказвае першы і ў гэты момант малаток сустракаецца з ягонымі пальцамі. — Блядзь!

Турыст ужо ведае і беларусаў, і іхнюю мову. Ён збіраецца ў Беласток, дзе будзе пісаць чарговую п'есу для польскага тэлебачання.

**29 чэрвеня.** Манцёр з Ломжы праводзіць электрыку. „Szła dzieweczka do laseczka", — падспеўвае, чым здзіўляе нават дваццацігадовую Красулю. Песня гучыць няёмка, бо нават калі і была ў вёсцы адна *dzieweczka*, ды пацягнулася не *do laseczka*, а ў горад, за кандуктарам аўтобуса, які штодзённа заязджаў у гэты глухі куток.

**2 ліпеня.** Філіпікавы блізняты прыбіраюць панадворак. Яны толькі патэнцыяльна Філіпікавы, нарадзіліся цераз два гады пасля таго, як стары ад'ехаў у Нью-Йорк. Але парадкі наводзяць усё-такі спраўна і дачыста.

**3 ліпеня.** Будова закончана.

Калі ўсе спадзяваліся, што цяпер ужо Філіпік запоўніць агромністы хлеў сотняю свіней, здарылася нешта нечаканае. Стары прывёз з горада казу, дарэчы, купленую ў рускіх турыстаў. Стварэнне было трохі дзіўнае, а з паходкі напамінала аднаго прэзідэнта, якому таксама час ад часу блытаюцца і ногі, і язык. Прычына гэтага была таксама простая і падобная на прэзідэнцкую: вось калі цягнік набліжаўся да мяжы, барадатая вытрубіла пляшку шампанскага. От, так сабе, на ўсякі выпадак, каб не кідацца ў вочы мытніку ці пагранічніку. У канцы канцоў папала ў хлеў, пастаўлены за амерыканскія грошы рукамі навакольных пралетарыяў, ці як цяпер гавораць: бізнесменаў. Цверазела тыдзень, пакуль як-небудзь дайшла да вертыкальнай пазіцыі. Ї толькі тады ўсе ўбачылі, якая гэта таленавітая і працавітая штука. Каб даказаць гэтае хопіць толькі прыпомніць падзеі з апошняга тыдня.

Ї так: у **панядзелак**, каза, ведучы гістарычныя даследаванні, даказала, што вёску Сучкін Сад заснаваў князь Яраслаў 23 жніўня 1038 г. а гадзіне 13 мінут 47 (што зрэшты прыгожа апісала ў газеце „Над Бугом"... і г.д.).

У **аўторак** заваявала першае месца на аглядзе беларускай песні ў катэгорыі салістаў, дуэтаў і хораў.

У **сераду** прамаўляла ў сейме ад левых дэмакратаў, а ў **чацвер** ад сялянскай партыі (на гэтыя два дні, каб падлізацца каму трэба, мяняла прозвішча з Казы на Казлоўскую; гэта старая і спрактыкаваная ў гісторыі „штучка", напрыклад, адзін дзядзька, які сапраўды зваўся *Władysławski,* каб падлізацца тым, якіх моцна біў, перахрысціўся на *Wołodyjowski).*

**З пятніцы** каза пачынала уік-энд. Гуляла тады ў амерыканскі футбол, у перапынках пеючы нейкую дзіўную песню. Песня гэтая даволі доўгая і слова ў слова яе запамятаць немагчыма. Агульны змест быў такі: дзяўчына спаглядала на Яся, за што *маті* трапала яе *бэрэзовым прутом.* Тады моцна *вкурвёна* дзевачка ўцякала *да лясэчка.*

Што там рабіла, і з кім, гаварыць не будзем, каб не нерваваць старажаў хрысціянскай маральнасці.

**Міхась Андрасюк**